№ 76 (4123)

30 верасня 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ТАМ, У ПЕКІНЕ...

## Аляксандр Лукашэнка ўзнагародзіў Сі Цзіньпіна ордэнам, якога раней не было

Адна з першых навін, якая прыляцела з Пекіна, – беларускі кіраўнік узнагародзіў старшыню Кітайскай Народнай Рэспублікі **Сі Цзіньпіна** ордэнам «За ўмацаванне міру і сяброўства». Дадзеная ўзнагарода з'яўляецца новай у Беларусі і ўручаецца ўпершыню.

Што ж да канкрэтных вынікаў візіту, то пакуль яшчэ рана рабіць нейкія высновы. Вядома, што падпісаны пакет пагадненняў і мемарандумаў аб развіцці супрацоўніцтва ў розных сферах.

Аналітыкі адзначаюць, што, нягледзячы на частыя сустрэчы лідараў Кітая і Беларусі (гэты візіт Аляксандра Лукашэнкі ў Паднябесную дзявяты), сёлета тавараабарот з КНР упаў на трэць, а беларускі экспарт у Кітай знізіўся ў 5 разоў.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**




СКАЗАНА!

**Аляксандр ЯРАШЭНКА,** намеснік міністра эканомікі:

– Важным адрозненнем Беларусі ў параўнанні з нашымі суседзямі з'яўляецца нізкі заробак. Калі ў Расіі сярэдняя зарплата цяпер складае **965** долараў, у Казахстане – **450,** то ў Беларусі – **383** долары.

*(Падчас выступлення на форуме «Пашыраючы гарызонты: інвестыцыі, фінансы, развіццё», Мінск, 29 верасня 2016 г.)*

ПАД ГРАДУСАМ

## Пагрэемся...

У гэтыя выхадныя нас чакае цёплае надвор'е. У суботу і нядзелю месцамі пройдуць кароткачасовыя дажджы. Тэмпература паветра ўначы будзе знаходзіцца ў межах +8...+14ºС, днём складзе +16...+23ºС, месцамі па Гомельскай і Брэсцкай абласцях паветра прагрэецца да +25ºС.

Хаця пацяпленне будзе непрацяглым і на наступным тыдні крыху пахаладае, але для восені надвор'е што трэба!

СУД ДЫ СПРАВА

## Слёзы Суботкіна

*Працягваецца суд над былым генеральным дырэктарам хакейнага мінскага "Дынама".*

Нагадаем, што **Максім Суботкін** быў затрыманы напрыканцы ліпеня 2015 года. Трохі пазней, у жніўні, затрымалі і генеральнага менеджара «Дынама» **Уладзіміра Беражкова**. Апошняму змянілі меру стрымання з заключэння пад варту на падпіску аб нявыездзе. А 8 верасня ў судзе Першамайскага раёна Мінска пачаўся працэс па справе Суботкіна.

Учора выступленне былога гендырэктара хакейнага клуба было даволі эмацыянальным.

*"Я не мог паверыць Беражкову і яго словам!* – заявіў Суботкін. – *Да Беражкова была такая ступень даверу, а ён мяне абгаварыў... Але я ніколі ў клубную кішэню не залазіў. Уся мая праца была накіравана толькі на тое, каб клубу было добра".*

На гэтых словах Максім Суботкін расплакаўся...

**Аляксандр НІКАНОРАЎ.**

ЖАХ!

## Чарговае забойства бізнесмена

На ўзбочыне дарогі недалёка ад вёскі Хрыпкі Шумілінскага раёна Віцебскай вобласці знойдзены труп 33-гадовага жыхара Віцебска з прыкметамі гвалтоўнай смерці.

*«Ім аказаўся жыхар Віцебска, які напярэдадні вечарам на асабістым аўтамабілі BMW X5 выехаў з Віцебска ў Гарадок для заключэння здзелкі»,* – распавяла афіцыйны прадстаўнік УСК па Віцебскай вобласці **Святлана Сахарава.**

Падазроны ў забойстве бізнесмена 34-гадовы жыхар Гарадка ўжо затрыманы.

КУЛУАРЫ

## В Минске собрались те, кто меняет мир

*Сегодня и завтра в отеле «Ренессанс-Минск» будет проходить Международная конференция «Новая реальность: вызовы для Беларуси».*

По словам председателя правления «Белгазпромбанка» **Виктора Бабарико,** спикерами конференции станут люди, которые не только готовы к изменениям – они уже самостоятельно меняют мир, формируя новые тренды, предлагая (и реализуя!) проекты, которые совсем недавно попали бы в разряд фантастики.

Так, участие в конференции «Новая реальность: вызовы для Беларуси», примет один из известнейших экспертов в области краудфандинга в мире, создатель и совладелец платформы Indiegogo **Слава Рубин.**

*«Слава Рубин – наш земляк, – рассказывает директор по развитию Бизнес-школы ИПМ* ***Алексей Дунаевский.*** *– Он родился в Минске, но его семья уехала из Беларуси, когда он был еще маленьким. Сегодня выходец из Беларуси – один из наиболее авторитетных экспертов в области краудфандинга в мире».*

**Александр Синицын** работает в исследовательском центре Philips в Эйндховене (Голландия) с 1999 года. Обладатель докторской степени, имеющий свыше 20 патентных заявок, выступит на конференции в Минске с докладом «Города будущего и интернет вещей. Взгляд корпораций».

**Тим Райт** из Великобритании известен и как музыкант, и как автор книг по современному финансированию, и как топ-менеджер ряда глобальных коммерческих организаций. В течение пяти лет он входил в управляющую команду IIT Scotland – инновационной программы с бюджетом 500 миллионов фунтов стерлингов. Наряду с ежедневной бизнес-практикой Тим является председателем Консультативного совета Школы менеджмента Университета Лестера.

А **Ричард Кастеляйн** из Германии подробно, буквально на пальцах объяснит, как может изменить нашу жизнь блокчейн (это структурированная база данных с определенными правилами построения цепочек транзакций и доступа к информации, которая исключает кражу данных, мошенничество, нарушение имущественных прав). Он готов подсказать, как использовать эту технологию, например... в энергетике или социальных медиа.

Еще один спикер конференции – **Аластер Парвин,** архитектурный и стратегический дизайнер, работающий с инновационной лондонской компанией 00 («ноль-ноль»). Аластер является одним из основателей WikiHouse – платформы открытых систем строительства.

*«Вы все еще думаете, что технологии, о которых расскажут спикеры конференции, не для Беларуси? Ошибаетесь!* – убежден глава "Белгазпромбанка" Виктор **Бабарико.** – *Часть из них уже реализуется в нашей стране. И огромное количество идей рождается в головах креативных людей, готовых выйти за, казалось бы, четко очерченные рамки».*

**Полина ПЛАТОНОВА.**

АСОБА

## Ён прамаўляў тост за беларускую мову

*Раніцай у сераду на 94-м годзе жыцця памёр сусветна вядомы палітык, дзяржаўны дзеяч і былы прэзідэнт Ізраіля, лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру Шымон Перэс. Згадваючы яго біяграфію, тэлеканал "Еўран'юс" паведаміў, апрача іншага, што нарадзіўся ён у Польшчы. Гэта не так.*

Карані Шымона Перэса – у беларускім краі, яго бацька жыў і працаваў у Валожыне, меў тут сваю краму (памяшканне яе захавалася). Аднаго са стваральнікаў сучаснай яўрэйскай дзяржавы я ўбачыў упершыню ў 1977 годзе ў Нью-Ёрку на сесіі Генеральнай Асамблеіі ААН. Ён не быў членам ізраільскай дэлегацыі і не выступаў з трыбуны. Але аднойчы ў перапынку паміж пасяджэннямі з'явіўся ў зале, і мне сказалі шэптам: "Паглядзі, Шымон Перэс, лідар апазіцыі ў кнесеце..." Паміж радамі крэслаў прайшоў стройны, падцягнуты, з разумным, валявым тварам мужчына ў цёмна-сінім касцюме. Павітаўся з кіраўніком нашай дэлегацыі.

Пасля гэтага я ўжо потым не прапускаў без увагі ўпамінанне ў сродках масавай інфармацыі імя Шымона Перэса, аднаго з нязменных лідараў Ізраіля. А праз 15 гадоў, у жніўні 1992 года, я ўбачыў Шымона Перэса другі раз. Але ўжо па-іншаму, у іншых абставінах: падчас візіту яго як міністра замежных спраў Ізраіля ў суверэнную Рэспубліку Беларусь. Тагачасны кіраўнік нашага знешнепалітычнага ведамства Пётр Краўчанка праявіў ініцыятыву і арганізаваў сустрэчу-абед прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі з ізраільскім міністрам. Злева ад мяне сядзеў пасол Ізраіля ў Маскве (у Беларусі тады яшчэ не было ізраільскай амбасады), а амаль насупраць – Шымон Перэс. Была магчымасць звяртацца непасрэдна да яго, пытацца і адказваць на яго пытанні.

Загаварылі, памятаю, на тэму, якую можна сфармуляваць прыкладна так: "Палітыка і мастак". Міністр не зусім пахвальна выказаўся адносна ўдзелу мастака ў палітычным жыцці, зазначыў, што гэта ўсё ж дзве розныя і таму не зусім сумяшчальныя сферы. Калі я прывёў словы Арыстоцеля пра тое, што, маўляў, "мастак – першы палітык", Шымон Перэс, крыху падумаўшы, сказаў: "Ну, гэта калі мець на ўвазе палітыку ў самым шырокім сэнсе слова".



Я ведаў, што ён збіраецца наведаць малую радзіму свайго бацькі – Валожын і Вішнева, і размова, натуральна, зайшла пра той гістарычна вядомы факт, што амаль усе заснавальнікі новай дзяржавы Ізраіль з'яўляюцца выхадцамі з Беларусі. Тут я, адштурхоўваючыся ад дадзенага факта і карыстаючыся, што называецца, шчаслівым выпадкам, загаварыў пра нашы нацыянальныя інтарэсы. "Спадар Перэс, – звярнуўся я да міністра, – калі мець на ўвазе ўсё гэта, гэтую вось заслугу Беларусі перад Ізраілем, то наша маладая суверэнная дзяржава мае, відаць, падставы разлічваць на падтрымку з боку вашай краіны, у прыватнасці, з боку яе знешнепалітычнай службы, на падтрымку – і ў двухбаковых дачыненнях, і на міжнароднай арэне – нашай дзяржаўнасці, нашай эканомікі, нашай культуры і мовы". Я не быў упэўнены, наколькі дыпламатычным выглядаў мой зварот, але Шымон Перэс успрыняў яго станоўча. І калі пайшлі ўжо тосты, абвясціў: "За беларускую мову! За беларускую мову і іўрыт!" Тост быў дружна падтрыманы ўсімі ўдзельнікамі застолля.

Праз нейкі час Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Ізраіля ў Беларусі Эліаху Валкам зазначыць у інтэрв'ю газеце "Звязда": "Мы падтрымліваем і будзем падтрымліваць прапановы Беларусі па многіх пытаннях у Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, у прыватнасці, адносна вылучэння беларускіх прадстаўнікоў у розных установах ААН, і, натуральна, разлічваем на такія ж адносіны вашай рэспублікі да Ізраіля. Тое ж можна сказаць і пра дзейнасць у іншых міжнародных арганізацыях. Ну а ў культурнай сферы магчымасцяў наогул вельмі і вельмі шмат. Паміж намі існуе цэлая сістэма сувязяў і каштоўнасцяў".

Словы амбасадара з'явіліся, па сутнасці, своеасаблівым працягам той памятнай гаворкі, якая адбылася напрыканцы жніўня 1992 года з Шымонам Перэсам, дапаўненнем да яго тоста.

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ.**



ПО ПОВОДУ



Мария ЭЙСМОНТ

## Услышать Цепкало

Просто невероятно. Не последние люди в стране один за другим заговорили о вреде проверок, захлестнувших белорусские предприятия.

В начале лета председатель Минского облисполкома Семен Шапиро сенсационно заявил на всю страну, что многие руководители боятся принимать решения из-за постоянных и не всегда обоснованных проверок. А недавно тему продолжил руководитель Парка высоких технологий Валерий Цепкало. Говорил со страниц издания Администрации президента. Сыпал фактами, убедительными аргументами: *«В США, Китае или Турции предприятия десятилетиями не видят никаких проверяющих. Более того, даже не знают о том, что они существуют. В Китайской Народной Республике есть орган, который называется Главное контрольно-ревизионное управление. В этом главном контрольном органе КНР работают... 450 человек. И это для страны с населением 1 миллиард 350 миллионов человек и 77,5 миллиона субъектов хозяйствования. В теории китайское предприятие могут проверить один раз в 150 лет. Поэтому не удивительно, что о существовании такого органа китайцы вообще не имеют представления».*

Или вот еще цитата от Цепкало: *«Бизнес без потерь не бывает. А директор государственного предприятия не имеет права на ошибку. Если у него три новых проекта успешные, а четвертый не пошел, то руководитель может быть серьезно наказан «за просчеты в экономической деятельности». Поэтому у нас большинство директоров и не рискуют, не идут на инновации, так как они по определению сопряжены с риском, не пытаются внедрить что-то новое».*

Безусловно, и без этих громких заявлений уважаемых людей всем известно, как много в Беларуси проверяющих структур, не раз читали, слышали от знакомых истории о том, как работало себе предприятие и работало, пришла проверка – и началось: теряется время, падает производственный темп, возникают убытки, появляются штрафы, а нередко дело заканчивается уголовными делами. Все помнят итог проверок «Борисовдрева» или птицефабрики «Ганна». На «Борисовдреве» вообще проверяющие ходили друг за другом чередой, все смотрели, видели, подписывали. Почему их тогда не посадили рядом с директором, когда возбудили уголовное дело и начался суд. За что отвечают проверяющие?

Или такой пример. Не уникальный, но показательный. Им недавно поделился наш читатель.

Этим летом большая комиссия из области нагрянула с проверкой в один из колхозов Минщины. Работу председателя признали неудовлетворительной. В общем, уволили с треском. Позор, казалось, на всю округу. Неизвестно, как долго посыпал голову пеплом бывший руководитель, но уже через месяц он трудоустроился. Как думаете, куда пошел работать? Не поверите! В управление сельского хозяйства района! То есть на повышение. Зачем тогда, скажите, все эти проверяющие приезжали, бензин государственный жгли, бумагу на всякие там протоколы изводили? И, между прочим, «трудились» не за так – за зарплату.

Сегодня в Беларуси более десятка проверяющих организаций, которые вправе наложить штраф, арестовать расчетный счет предприятия, привлечь руководителя к административной ответственности или даже арестовать его. Но нередко в нужное время и в нужном месте их не оказывается. Хотите такие примеры – пожалуйста.

Было в Минске такое предприятие «БелПромОценка». Полгода его руководители не платили зарплату сотрудникам, задолженность превысила 1 млрд рублей старыми деньгами. Народ стал увольняться, в суды пошли иски на бывшего работодателя. Все процессы истцы легко выигрывали, но денег им так никто и не вернул. Об этой ситуации знали не в одной проверяющей структуре страны, потому что, как только начались задержки по зарплате, сотрудники компании стали писать жалобы в Минский райисполком, в департамент государственной инспекции труда, в Министерство труда и социальной защиты, КГБ. Умоляли проверить счета, цепочку денежных переводов. Но никто никаких проверяющих не присылал! В итоге предприимчивые дельцы так и не рассчитались с людьми по зарплате и не понесли за это никакого наказания.

Или вот последний пример, о котором и «Народная Воля» писала. Под носом у чиновников в Ратомке строительная фирма возвела 10 (!) многоэтажек, а теперь вдруг Минский райисполком заявил, что это самострой! А где вы раньше были? 10 домов – это не иголка в стогу сена. Не видели, не знали?

Если таких историй в стране не одна-две, а десятки, зачем нам тогда своими налогами кормить едва ли не самую огромную в мире армию проверяющих?!

Почему никто не хочет прислушаться к мнению тех, кто создает, производит, дает рабочие места, и свести к минимуму число проверяющих структур в стране? Освободить время, энергию этих людей для решения действительно важных задач, которых в стране полным-полно? Шапиро, Цепкало свое мнение по этому поводу озвучили.

Кто должен быть следующим, чтобы услышали всех?!

Народная Воля http://www.nv-online.info
30 ВЕРАСНЯ 2016 г.

ПЕРСОНА

# КОРОЛЕВА-МАТЬ

## *25 вопросов сыну народной артистки Александры Ивановны Климовой, которая при жизни удостоилась самых высоких наград от государства, а от зрителей – просто имени Александра Великая*



### ДОСЬЕ «НАРОДНОЙ ВОЛИ»

Александра Ивановна КЛИМОВА родилась в Кустанайской области. Выпускница московского Высшего театрального училища им.Щепкина (1949 г.), где ее педагогом по мастерству актера была известнейшая советская актриса Вера Николаевна Пашенная. С 1956 года служила в Национальном академическом драматическом театре им.Горького, за годы работы в котором сыграла более 80 главных ролей классического и современного репертуара.

Имя Александры Ивановны Климовой значится во Всемирной театральной энциклопедии как выдающейся актрисы XX века. Заслуги актрисы в искусстве кроме звания народной артистки СССР отмечены орденом Ленина, орденом Трудового Красного Знамени, орденом Дружбы народов, медалью Франциска Скорины.



Завтра, 1 октября, исполняется 95 лет со дня рождения Александры КЛИМОВОЙ, тонкой драматической актрисы, красивой, романтичной женщины.

Она служила в НАДТ им.Горького – Русском театре – без малого 50 лет. Это была настоящая театральная леди Минска! Безупречный, сильный талант. Прославилась на сцене сама, прославила своим творчеством театр и республику – Климова вообще была из послевоенного поколения победителей. Из тех людей, которые любили свою страну, несмотря ни на что, потому что верили в чистоту провозглашенных идеалов и, главное, сами жили по высоким законам этих идеалов. Уж не нам их судить.

Сегодня в НАДТ им.Горького работает сын Александры Ивановны – заслуженный артист Беларуси, ведущий мастер сцены Андрей Душечкин. Согласитесь, воспоминания такого очевидца эпохи Климовой в Русском театре и в жизни на вес золота…

**1 – Как вы решились… Нет, как вы осмелились пойти служить в Русский театр, где царила Александра Великая, ваша мама?**

– Моя коляска в прямом смысле слова стояла за кулисами. Потом я рос, сидя на коленях артистов во время репетиций. Театр был вторым домом, я был в нем, как рыбка в аквариуме.

**2 – Театров много, но зачем было идти под крыло к Климовой? Или, наоборот, под ее жесткий диктат?**

– А во мне не было стеснения, что я, мол, из известной актерской семьи, поэтому должен что-то доказывать. Я считаю, что актерские династии имеют право быть, имеют право на многое – на что, кстати, не имеют права другие, зашедшие в театр с улицы. Это мое мнение, оно многих раздражает – мне все равно, я все давно доказал.

**3 – А сама Александра Ивановна не была против семейственности в театре?**

– Скажу честно: я совсем не хотел идти в театр Горького (хотя он в то время был один из лучших в Союзе), я хотел сниматься в кино! Первый раз попал на площадку еще на 4-м курсе института. Мне настолько понравилось, что я планировал идти в штат «Беларусьфильма». Рассказал дома, а Александра Ивановна сказала: «Не дури! Не делай глупости. Иди в свой родной театр». Переубедила. Если бы она была против, я бы не ослушался.

**4 – Пошли, зная, что рядом с мамой будет тяжелее всего? Что вас будут волей-неволей постоянно сравнивать?**

– Не задумывался абсолютно! Я был одним из лучших студентов курса. Актерство было мною впитано генетически. Но, в конце концов, моя фамилия Душечкин. И не к маме я шел, а к режиссеру Глаголину, потом у нас был режиссер Маслюк, в команду которого я входил и который во многом сформировал меня как артиста.

**5 – Хочу расспросить о личной жизни Александры Ивановны. Великая актриса была счастлива в браке, как вы думаете?**

– Абсолютно. Она любила отца. Другое дело, что у Александры Ивановны был железный, непреклонный характер. Никаких компромиссов и полутонов. В семье было порой непросто. Но зато энергетика на сцене от нее шла колоссальная.

**6 – А отец? Он ведь тоже начинал актером?**

– Отец был мягкий интеллигент. Сначала



пошел в Русский театр, где мимо воли попал под мамино крыло. Устроить его это никак не могло. И он ушел в Театрально-художественный институт (*ныне Белорусская государственная академия искусств*. – **Ред.**), стал хорошим педагогом. И все время хотел домой – как любой, думаю, киевлянин. Все Душечкины – это Украина, Киев, Белая церковь. До сих пор там живут все родственники по отцу.

**7 – Родители рассказывали вам о своей истории любви?**

– Она была абсолютно романтична. Молодая актриса приезжает по распределению из Москвы в Киевский академический театр имени Леси Украинки, встречает молодого актера, они создают семью и вдвоем уезжают из Киева сначала в Харьков, а потом в Минск, куда Климову позвали на роль Комиссара в «Оптимистической трагедии». Здесь Александра Ивановна получила все условия для творчества – Беларусь ей дала все! У меня такое впечатление – Климовой просто подарили Русский театр.

**8 – Мама Климовой видела свою великую дочь на сцене?**

– Бабушка приезжала в Минск из Сибири. Она была неграмотной, и никакие «тиятры» ее не интересовали. Это как вырвать из русской общины старовера и приволочь его на базарную площадь. Зачем? Она рада была нас повидать, но в городе ей было неуютно… Александра Ивановна родилась в большой крестьянской сибирской семье, но все ее братья погибли на Великой Отечественной.

**9 – А с отцовской родней поддерживаете связи?**

– Конечно. Все Душечкины по-прежнему в Украине, они моряки, врачи и технари. Артистов больше нет. Отец и я.

**10 – Какие политические настроения сейчас в семье Душечкиных?**

– Когда я довольно давно гостил у них, внешнюю политику мы не обсуждали, не до этого нам было – я приехал сразу после маминой кончины, в 2005 году. Но скажу одно: украинский народ абсолютно открыт. Они даже дома между собой выясняют все проблемы бурно, сильно, не выбирая слов. Половина семьи не любит Тимошенко, другая половина, напротив, ее жарко поддерживает. И это служит поводом настоящих перебранок. Но без последствий для родственных отношений. Они так общаются.

**11 – Вернемся в Русский театр. Что было причиной весьма сложных отношений Александры Ивановны с Ростиславом Ивановичем Янковским, с ее лучшим, талантливейшим партнером по сцене?**

– Семьи Климовых и Янковских приехали в Минск почти в одно и то же время. И как сказал на кладбище Игорь, сын Янковского: «Вместе приехали – вместе легли». Климова и Янковский даже похоронены на Восточном кладбище практически рядом. Эти двое актеров сделали для театральной Беларуси столько, их уровень творческого вклада в театральную жизнь страны СССР и Беларуси так велик!.. Я другой такой фантастической актерской пары и не припомню.

**– И какие красивые люди при этом…**

– Да, еще и фактура обоим природой была подарена… Но внутренние отношения в тандеме были весьма сложные, все об этом знают. А причины? Я так и не смог понять, какая кошка между ними пробежала. Повзрослев, я постоянно гасил этот конфликт.

**12 – Это правда, что Александра Ивановна даже называла его «убийцей»?**

– Надо знать Климову! Это открытый поток темперамента! Они вместе играли «Макбет», и, возможно, после этой роли она его так и стала называть. Мне кажется, она так энергетически подстегивала себя, чтобы играть потом на сцене. Возможно, это была внутренняя психическая разминка. Конечно, Ростиславу Ивановичу досталось… Она на нем открывала свои эмоциональные шлюзы. Но надо отдать ему должное – он стерпел все. И много позже, подарив мне книгу о себе, подписал: «На память о матери и об отце». Потому что полкниги посвящено моим родителям.

**13 – У мамы были подруги?**

– Нет. Дружила она только с заведующей костюмерным цехом Яниной Михайловной Куницкой. А из актрис… Всегда хорошо относилась к молодым. Но получить ее признание было нелегко. Она оценивала людей со своей высоты. Александра Ивановна очень хорошо относилась к Клебанович (*Ольга Клебанович ныне народная артистка РБ.* – **Ред.**).

**14 – Все-таки из ваших рассказов мама предстает железной леди. Это действительно ее суть?**

– Это просто свойство темперамента. Невозможно быть членом худсовета и не выбирать слова, правда? Театр – это государство в государстве, ты постоянно можешь попасть в ловушку – моральную или профессиональную. А у Климовой отсутствовал инстинкт самосохранения. Она называла вещи своими именами: черное – черным, белое – белым. Не заботясь о том, как воспримут ее окружающие.

**15 – И за это Александру Ивановну не приняли в КПСС?**

– Да! Поразительная вещь. Имея уже орден Ленина, орден Трудового Красного Знамени, звание народной артистки СССР, занимаясь общественной работой (Александра Ивановна входила в комиссию БССР по делам ЮНЕСКО, комиссию по Государственным и Ленинским премиям СССР, была шефом Белорусского военного округа), – и вот она самостоятельно, без указки сверху, написала заявление о приеме в партию. И получила отказ!

**16 – Кто решил ей так отомстить?**

– Ее прокатили в родном театре, в первичной партийной организации с формулировкой «из-за неуравновешенности характера». И дома мама ругалась так… Она обычно не плакалась в подушку, напротив. Она ругалась, била посуду, могла кинуть табуретку в плафон. Она так выражала свои чувства. А отец посмеивался. Он был военнопленным в годы Великой Отечественной войны. Совсем молодой пошел по призыву, тут же попал в плен, в концлагерь. А когда немцы взяли Киев, их лагерь расформировали, всех выпустили. Отец пришел домой.

**– Это украинцев выпустили. Русских не выпускали, а расстреливали.**

– Именно так. Но у него вот такой факт биографии. И, естественно, Андрей Валентинович в партии состоять не мог.

**17 – И он избежал репрессий после войны?**

– Да. Опять же – это Украина. Там репрессий было значительно меньше. Но все карьерные высоты были для папы закрыты навсегда. Он это прекрасно понимал, занимался педагогикой, творчеством. Как истинный интеллигент, он вообще достаточно иронично относился к политической жизни. А мама – нет! Она была абсолютно государственный человек.

**18 – Вы не помните, как родилось второе имя Климовой – Александра Великая?**

– Как же! Первой так Климову в своей статье назвала Майя Ивановна Горецкая, журналист телевидения. А коллеги и зрители подхватили. И строгий критик Татьяна Орлова тоже признавала ее талант. Как видите, женщины-критики делали ее творчеству полный реверанс.

**19 – Однажды в печати промелькнула фраза Климовой из дневника: «На прием иду – надеть нечего…». Что бы это означало?**

– Мама была человеком настроения, и в дневнике она выплескивалась. Но после 1991 года действительно все стали жить трудно. Денег хватало только на еду – мы же не бизнесмены. Тем более что у нас все сгорело на сберкнижке. Хотя и немного было…

**20 – Но материальное благополучие вашей семьи было все-таки всегда выше среднего?**

– Было все, что нужно для жизни, а лишнего ничего не было. Во-первых, мы без конца ездили, и та же дача нам была не нужна. Плюс все в семье близорукие – значит, и машина не нужна. Но то, что надо, всегда было. При всех правителях отношение к маме было очень хорошее. Государство Климову уважало.

**21 – За мамой ухаживали высокопоставленные чиновники?**

– Нет. Она вела себя так, что никому не приходило в голову переступить черту. Она не умела флиртовать.

**22 – Какие подарки ей преподносили?**

– У мамы было море поклонников-зрителей по всему Советскому Союзу. Ей часто слали по почте сувениры, книги. Что-то ценное? В то время это не было принято. А вот вазы, цветы!.. Я от них устал, ведь кто потом выносил увядшие букеты? Единственный вещевой подарок – телевизор «Горизонт» от правительства на 75-летие со дня рождения. Работает до сих пор.

**23 – Скажите, а звездности, положенной, собственно, ей по статусу, разве у Климовой не было?**

– Была! Она прекрасно знала себе цену, очень любила правительственные приемы. Все ее юбилеи проходили на высоком правительственном уровне. Мама обожала фуршеты, банкеты, друзей, общение. Всю жизнь любила посидеть, выпить.

**24 – Актриса Климова хорошо пела?**

– Она пела потрясающе! Мама была очень музыкальна… У нее была очень хорошая школа. Кстати, Москва издала переписку легендарной актрисы Малого театра и профессора «Щепки» Веры Пашенной – в том числе в книгу вошла переписка с Александрой Ивановной, любимой ученицей Веры Николаевны.

**25 – И все-таки какая общая атмосфера царила в вашем кругу?**

– Я 1960 года рождения, я из брежневской эпохи. Признаться, мы жили, как хотели. Я носил длинные волосы, играл и слушал зарубежную музыку, и вообще внутри мы были свободны, веселы и счастливы. Идеологического зомбирования я на себе не чувствовал. При этом я прошел все ступени воспитания: от октябренка до члена партии. В театре парторганизация была очень большая: собственно, все, кроме Климовой. И, между прочим, тогда в театре играли больше зарубежной драматургии, чем сейчас, как ни странно. Я был противник разрушения СССР. Но – сторонник реформирования экономики. Но мы ж не обо мне говорим. Мама была ярый противник разрушения СССР… Это была ее страна.

**Елена МОЛОЧКО.**

САЛІДАРНАСЦЬ

## Прысвяціў Паўлу Шарамету

Саша Філіпенка атрымаў прэмію расійскага часопіса «Сноб» за свой трэці раман «Цкаванне». Падчас уганаравання пісьменнік выступіў з прамовай:

"Я хацеў бы падзякаваць тым, хто намінаваў мяне, падзякаваць тым, хто за мяне галасаваў. Мне сёння паведамілі, што, калі я раптам выйграю прэмію, стану першым замежнікам, які яе атрымаў. Мне гэта не здаецца дзіўным, бо, нягледзячы на тое, што кніга ў асноўным пісалася ў Францыі і пісалася беларусам, усё напісанае ў ёй, на жаль, сапраўды зроблена ў Расіі.

Я хацеў бы асобна сказаць дзякуй часопісу "Сноб". Некалькі гадоў таму часопіс першы надрукаваў урывак з тады яшчэ не апублікаванага рамана "Былы сын" ("Бывший сын"). Прачытаўшы ўрывак, Павел Шарамет патэлефанаваў майму цяперашняму выдаўцу Барысу Пастэрнаку і сказаў: "Бора, трэба тэрмінова публікаваць..."

І вось праз тры гады Паўла з намі няма, а я атрымліваю прэмію "Сноба" за раман, у якім распавядаецца, як журналіста цкуюць за яго-ную прафесійную дзейнасць. З вашага дазволу я хацеў бы прысвяціць гэтую прэмію Паўлу Шарамету. Дзякуй!".

ВЕДАЙ НАШЫХ!

## Віктар Мендзелеў вярнуўся з перамогай

*Тэнар Вялікага тэатра Беларусі Віктар Мендзелеў стаў лаўрэатам I Міжнароднага конкурсу вакалістаў імя Фёдара Шаляпіна, які праходзіў ва Уфе. Віктар – уладальнік трэцяй прэміі.*



У скарбонцы артыста гэта не першая значная ўзнагарода. Спявак – лаўрэат адкрытага конкурсу імя Станіслава Манюшкі «Убельская ластаўка», уладальнік прэміі Мінскага міжнароднага Каляднага конкурсу вакалістаў.

Пачуць Віктора Мендзелева можна будзе 12 кастрычніка ў пастаноўцы Вялікага тэатра «Макбет».

**Аліна ВЕТРАВА.**

ЗА ПРАХАДНОЙ

## «Нафтан» прадае рэзідэнцыю

*Нерухомасць у 7 кіламетрах ад Масквы ацэньваецца ў 4,4 мільёна долараў.*

*– Гэта ўжо другая спроба наваполацкага нафтаперапрацоўчага завода прадаць сваю рэзідэнцыю ў Расіі,* – сказаў «Народнай Волі» старшыня Незалежнага прафсаюза ААТ «Нафтан» **Генадзь Варона.**

У мінулым годзе аб'ект выстаўляўся на аўкцыён за 6,3 мільёна долараў і, як вядома, не знайшоў свайго пакупніка.

На тэрыторыі знаходзяцца два будынкі: для афіцыйных прыёмаў і памяшканне для персаналу і аховы. Плошча галоўнага дома складае 2156 кв. метраў. Там налічваецца 14 асобных спальняў з санвузламі, канферэнц-зала, прафесійная кухня, сталовая і гэтак далей. Таксама на ўчастку размешчана альтанка, міні-сажалка, драўляная мэбля, мангал...

**Раман ВАСЮКОВІЧ.**

СІТУАЦЫЯ

## Бацькі пратэстуюць…

### *Як беларускія ўлады выбарачна караюць тых, хто браў удзел ва ўзброеных канфліктах за мяжой*

Бацькі беларускіх добраахвотнікаў, якія дапамагаюць украінскаму войску ў зоне антытэрарыстычнай аперацыі на Данбасе, ствараюць камітэт. Яны разлічваюць на дапамогу беларускай і міжнароднай грамадскасці ў справе абароны сябе і сваіх сыноў.

Пасля прыняцця папраўкі ў артыкул 361 Крымінальнага кодэкса, якая дазваляе караць за ўдзел ва ўзброеных канфліктах за мяжой, беларускім добраахвотнікам на радзіме сталі пагражаць крымінальныя справы. Ужо распачата некалькі такіх спраў. На кватэрах бацькоў некаторых добраахвотнікаў следчыя зрабіліператрусы, забралі аргтэхніку, якая, дарэчы, не належыць падазроным. Прынамсі, планшэт **Алены Скобля**, маці **Аляксея Скоблі**, які працуе санітарам у вайсковым шпіталі, следчыя доўгі час трымаюць у сябе. Але жанчына менш за ўсё перажывае за сваю маёмасць. *"Я, калі даведалася, што мой сын ва Украіне, то ад страху і адчаю проста крычала. Там жа ідзе сапраўдная вайна. Так, ён не ваюе і ў яго нават няма зброі. Ён даглядае ў вайсковым шпіталі параненых. Але мне ўсё роўна боязна за яго. Цяпер з-за крымінальнай справы ён не можа нават вярнуцца дадому. Некалькі месяцаў таму мы з ім пабачыліся на кіеўскім вакзале і ўсё"*, – ледзь стрымлівае слёзы Алена.

Сапраўды, матчын страх за сына небеспадстаўны: беларус **Алесь Чаркашын** быў ва ўкраінскім войску ў якасці капелана і не насіў зброю паводле сваіх перакананняў, але, нягледзячы на гэта, загінуў ад рукі снайпера, які ваяваў на баку тэрарыстаў.

Ніхто не ведае, колькі беларускіх грамадзян паехалі ва Украіну дапамагаць украінскаму войску. Лічыцца, што іх крыху больш за 120 чалавек. Але ніхто не ведае, колькі беларусаў паехалі ў суседнюю краіну ваяваць на баку тэрарыстаў, якія акупавалі частку Данбаса і забіваюць вайскоўцаў украінскай рэгулярнай арміі. Ніхто не назваў і дакладную лічбу, колькі з іх вярнуліся ў Беларусь у выглядзе "груза-200". Але і першым і другім пагражаюць аднолькавыя крымінальныя справы.

**Віктар Мельнікаў**, бацька **Яна Мельнікава**, які ваюе на баку ўкраінскага войска, абураецца: *"Не магу зразумець, чаму майго сына лічаць злачынцам. Наша краіна ў добрых стасунках з Украінай. Мы пастаўляем ім тэхніку без усялякіх праблем. Чаму дырэктара МАЗа не прыцягваюць да адказнасці?! Аўтамабілі ж ідуць на патрэбы войска. Чаму тады мой сын, які ваюе на баку афіцыйнага войска супраць захопнікаў-тэрарыстаў, з'яўляецца злачынцам? Чаму супраць тых, хто ваюе на баку тэрарыстаў, не ўжываюць адмысловы артыкул "тэрарызм"?"*

Пытанняў шмат, але адказаў з афіцыйнага боку пакуль няма. Бацькі добраахвотнікаў сумесна падрыхтавалі звароты ў дзяржаўныя ўстановы з просьбай разабрацца ў сітуацыі.

**Любоў ЛУНЁВА.**

ЧУЛІ?

## Пенсіі абяцаюць павысіць

Намеснік міністра працы і сацыяльнай абароны Аляксандр Румак заявіў, што пераразлік працоўных пенсій у сувязі з ростам сярэдняй заработнай платы работнікаў плануецца правесці да канца бягучага года.

Зараз сярэдні памер пенсій па ўзросце складае 291,4 рубля. Апошнім разам пенсія павялічвалася ў верасні мінулага года і ўсяго толькі на 5%.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ТРАГЕДЫЯ

## Загінула на бульбе

Учора страшэнны выпадак адбыўся непадалёк ад Маладзечна на бульбяным полі. Там загінула вучаніца 8-га класа.

– Грузавік з бульбай здаваў назад, – расказаў журналістам аднакласнік загінуўшай. – Вадзіцель не заўважыў, што ззаду стаіць дзяўчынка, і наехаў на яе. Пакуль прыехала «хуткая», дзяўчынка памерла.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
30 ВЕРАСНЯ 2016 г.

ЗАКОН И ПОРЯДОК

## Отрезвляющий эффект

Три года назад в белорусском законодательстве появилась новая уголовная статья – о спецконфискации у пьяных водителей транспортного средства.

«Я считаю, что эта мера весьма эффективна, – заявил заместитель председателя Верховного суда, председатель судебной коллегии по уголовным делам **Руслан Анискевич**. – Мы не проводили специальных исследований, насколько мера действенна сама по себе. Мы оцениваем весь комплекс мер, принимаемых в отношении нарушителей правил дорожного движения. Так вот, статистика говорит о том, что за последние 10 лет количество ДТП снизилось почти в два раза, в том числе со смертельным исходом. За последние пять лет судимость снизилась также практически в два раза, а судимость пьяных водителей уменьшилась в три раза. То есть на людей эти меры оказывают существенный отрезвляющий эффект».

ПОЗИЦИЯ

## Декоммунизации не ожидается

***Площадь Орджоникидзе в Могилеве переименовывать не спешат***

В июне в адрес Могилевского горисполкома было направлено коллективное обращение, инициированное православной общественностью города, с предложением переименовать площадь Орджоникидзе в площадь святителя Георгия Конисского. Предлагалось также поставить на площади памятник Конисскому. С конца июня по сентябрь в Могилеве проходило общественное обсуждение вопроса переименования.

*«Да, с одной стороны, был организован сбор подписей Могилевской епархией православной церкви. Но у нас 50 религиозных объединений, которые не считают, что Конисский является святым для города Могилева. Второе – у нас нет позиции государства на декоммунизацию, как в Украине»*, – сообщил БелаПАН главный специалист городского управления идеологической работы, культуры и по делам молодежи **Виталий Киреев**.

Только четверо из 13 членов топонимической комиссии при Могилевском горисполкоме выступили в поддержку переименования площади Орджоникидзе в площадь Георгия Конисского.

ВЕРНИСАЖ

## Из Ватикана с визитом



Высокий гость – Гвидо Корнини, заместитель директора музея Ватикана, – приехал в Беларусь практически на день. И лишь для того, чтобы открыть вчера вечером в Национальном художественном музее выставку «Мир небесный на земле», в экспозиции которой представлены белорусские иконы, побывавшие летом в его родном музее. Этот международный выставочный проект стал крупнейшим событием белорусской культуры.

– Культурные контакты очень важны – ведь за ними могут последовать политические связи, – сказал Гвидо Корнини. – Очень хорошо, что белорусские иконы побывали на выставке в музее Ватикана. Мы получили новую информацию, специалисты начнут изучать иконы вашей страны. До сих пор в Ватикане была более известна русская школа иконописи, иконопись вашего региона известна гораздо меньше.

**Виктория ДРОЗД.**

ПАМЯЦЬ

# З клопатам пра Бацькаўшчыну

*Гэтая гутарка рыхтавалася як юбілейная, прымеркаваная да 85-годдзя Ніла Сымонавіча Гілевіча, а сталася развітальнай... Аб тым, чым жыў вялікі Паэт і Грамадзянін, што яго хвалявала да астатніх хвілін жыцця і аб чым ён клапаціўся больш за ўсё, – апошняя гутарка з апошнім Народным паэтам Беларусі (даецца ў скарочаным варыянце)...*



**Ніл Гілевіч**

*Народны паэт Беларусі. Заслужаны дзеяч навукі Беларусі. Прафесар. Паэт, празаік, драматург, перакладчык, фалькларыст, літаратуразнаўца. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1980 г.). Аўтар кніг: «Песня ў дарогу», «Прадвесне ідзе па зямлі», «Перазвоны», «Святлынь», «Родныя дзеці», «Замова ад страху» і іншых. Нарадзіўся ў 1931 годзе ў вёсцы Слабада на Лагойшчыне. Памёр 29 сакавіка 2016 года.*

**– Шаноўны Ніл Сымонавіч, па іроніі лёсу ваш юбілейны год абвешчаны ў Беларусі Годам культуры. Як вы лічыце, аднагадовая акцыя можа ўратаваць нашу культуру ці хаця б спыніць працэс дэградацыі, які ахапіў сферу нацыянальнай культуры ў апошні час?**

– Абвясцілі Годам культуры... І што? Ужо вызначылі хоць два-тры дзясяткі ўшчэнт зрусіфікаваных школ, якія на працягу года стануць беларускімі? Я пра такое не чуў. Ці ў два-тры разы болей беларускамоўных кніг выйдзе за гэты год у дзяржаўных выдавецтвах? І пра такое нідзе не паведамлялася. Дык пра якую культуру гаворка? Якой культуры год? Дадуць трохі больш канцэртаў, правядуць трохі больш паказушных мерапрыемстваў... І гэта зробіць пералом у трагічным лёсе нашай нацыянальнай культуры? Гэта спыніць працэс духоўнай дэградацыі беларускага грамадства? Развіццё культуры – у адрыве ад нацыянальных традыцый, ад нацыянальнага грунту? Хто ў такія казачкі паверыць? Ну, але ж ружовы дым у вочы трэба пускаць. Без гэтага мы не можам. Дарэчы, законнае пытанне: пройдзе, закончыцца Год культуры, а далей што? А далей? Колькі будзе ўвагі праблемам культуры? Застаецца толькі цяжка ўздыхнуць...

**– Нядаўна Таварыства беларускай мовы, ля вытокаў стварэння якога вы стаялі, выступіла з ініцыятывай заснавання Нацыянальнага ўніверсітэта. Ці своечасовая такая ініцыятыва? Чаму гэтая ідэя не была рэалізавана ў, так бы мовіць, найноўшыя часы «беларусізацыі»? Я маю на ўвазе дзевяностыя гады, калі вы асабіста ўзначальвалі пастаянную камісію Вярхоўнага Савета БССР па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны?**

– У першай палове 90-х (1990–1995), калі я працаваў у Вярхоўным Савеце РБ, пытанне пра заснаванне асобнага Нацыянальнага беларускага ўніверсітэта не ўзнікала і не магло ўзнікнуць, бо кіраўніцтвам краіны ажыццяўляўся курс на беларусізацыю ўсёй сістэмы адукацыі – і школ, і ВНУ (пасля абвяшчэння беларускай мовы адзінай дзяржаўнай у студзені 1990-га). Падкрэсліваю: усіх ВНУ рэспублікі, і найперш БДУ – Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (Беларускага!). На вялікі жаль, з абвяшчэннем у нас і рускай мовы дзяржаўнай (1995) цудоўны перспектыўны курс на беларусізацыю быў скасаваны, адменены, і ўсё жыццё пакацілася па рэйках нахабнай беспардоннай русіфікацыі. Па гэтых рэйках яно коціцца і да сёння. Задача ўсіх патрыётаў Беларусі – вярнуць яго на рэйкі 1991 года, на рэйкі беларусізацыі.

**– Назавіце, калі ласка, галоўнае, без чаго, на вашу думку, не можа існаваць сапраўдная паэзія. І ў звязку з гэтым – каго з беларускіх і не толькі літаратараў вы лічыце сваімі настаўнікамі?**

– Без праўдзівасці высакароднага пачуцця, якое натхніла на паэтычны твор. Хлусня і пошласць несумяшчальныя з паэзіяй. Найбольш удзячны за навуку Максіму Багдановічу, Янку Купалу, Якубу Коласу, Францішку Багушэвічу, Аркадзю Куляшову, Пімену Панчанку... З небеларускіх – Тарасу Шаўчэнку, Аляксандру Пушкіну, Міхаілу Лермантаву, Уладзіміру Маякоўскаму, Сяргею Ясеніну, Аляксандру Твардоўскаму.

**– На вялікі жаль, некаторыя прадстаўнікі сучаснага літаратурнага пакалення прынцыпова не прызнаюць ніякіх творчых аўтарытэтаў. Для іх звычайная справа абазваць генія нацыянальнай паэзіі Янку Купалу – «Каянам Лупакам», а Максіма Багдановіча – «Няздарам-сухотнікам»... Як вы ставіцеся да такой звыклай з'явы сярод сённяшняй творчай моладзі, як літаратурны нігілізм? Адкуль, на вашу думку, бярэ пачатак гэты ганебны рэцыдыў?**

– Пачатак ганебнага нігілізму, які дазваляе беспардонна абражаць нацыянальных геніяў, гонар і славу нашай літаратуры, – у нелюбові і нянавісці да Беларусі. У сапраўднага сына (ці дачкі) Бацькаўшчыны ніколі не павернецца язык на такое багахульства. На маё перакананне гэта верх цынізму, і наогул гэта антычалавечна. А значыць, гэта не мае дачынення да сапраўды інтэлігентнага асяроддзя.

**– Не сакрэт, што апошнім часам цікавасць да літаратуры імкліва падае... Што, на вашу думку, стала прычынай духоўнага збяднення нацыі – «інтэрнэтазалежнасць» сённяшніх патэнцыяльных чытачоў, палітыка сучаснай улады ў галіне культуры ці адсутнасць вартых чытацкай увагі твораў? У чым вы бачыце ратаванне ад гэтай згубнай з'явы? На якой глебе прараслі парасткі сённяшняй бездухоўнасці? Ці існуе магчымасць спыніць гэты працэс альбо ён ужо незваротны?**

– Што стала прычынай? Як казалі ў нашым баку: і гэта, і гэна, і тое. Выліць віну на пісьменнікаў – маўляў, мала пішуць выдатных твораў – будзе несправядліва: ва ўсе часы пісаліся творы рознай якасці – і выдатныя, і добрыя, і пасрэдныя, і дрэнныя! Гэтаксама і сёння. Усё залежыць ад таленту. Бяда, аднак, у тым, што і на самыя дасканалыя, нават на геніяльныя кнігі чытацкі попыт няўхільна скарачаецца. Што спыніць гэты гібельны працэс? Пытанне вельмі і вельмі цяжкае. Ці апомніцца, ці схапоціцца чалавецтва альбо і далей будзе каціцца ў бездань бездухоўнасці – адзін Бог ведае. Будзем аптымістамі, будзем верыць, што чалавечы род не для таго ўзнік на планеце, каб аднойчы бязглузда, бяздарна згінуць.

**– За апошнія дзесяць гадоў вы ўласнымі сіламі падрыхтавалі і выдалі 23-томны збор сваіх твораў. Няўжо за гэты час не знайшлося ніводнага чалавека, грамадскай інстытуцыі або дэмакратычнай ініцыятывы, хто прапанаваў бы вам хоць нейкую дапамогу ў гэтай нялёгкай і патрабуючай немалых сродкаў справе? Той жа Саюз беларускіх пісьменнікаў, напрыклад, які мае сваю кніжную серыю і выдавецкія магчымасці ў рэшце рэшт?**

– На самым пачатку два сябры для выдання аднаго тома пасільны ўклад зрабілі. І ўсё. Больш не было. Па той прычыне, што мае сапраўдныя сябры таксама бедныя людзі. Адзінай фінансавай крыніцай была мая вартая жалю пенсія. Таму і наклад выдання: 100, 70, 50 паасобнікаў. Ганебна, канечне, і для дзяржавы, і для грамадскасці. Але хто адчувае гэтую ганьбу? Калі мы, беларусы, выжывем, а мы – насуперак усім злым, варожым сілам – выжывем, тады ўбачым і зразумеем усе праявы нашай нацыянальнай ганьбы, у тым ліку – і непараўнана больш значныя, чым гэта. Страшныя праявы! Такія страшныя, што ад сораму можна памерці. Маю адчуванне, што сённяшнія маладыя беларусы пачынаюць гэта ўсё больш разумець...

**– Ніл Сымонавіч, у свой час вы выступілі з ініцыятывай адмены ўсіх ганаровых званняў, у тым ліку і звання «Народны паэт Беларусі». Цяпер, калі вы засталіся адзіным уганараваным гэтым званнем творцам, вы не памянялі сваю думку? Адсутнасць прыжыццёвых званняў у Максіма Багдановіча, Уладзіміра Караткевіча і Міхася Стральцова не перашкодзіла ім быць аднымі з самых любімых беларускіх пісьменнікаў. Бо, як мне падаецца, вартасць літаратара вызначаецца не ганаровымі званнямі, а ягонымі творамі... Ці я ў нечым памыляюся?**

– Па-першае, гаворка ўзнікла таму, што за гады працы ў Вярхоўным Савеце РБ пераканаўся, як некаторыя дзеячы літаратуры і мастацтва літаральна «выбіваюць» для сябе (і нават для жонкі) гэтае ганаровае званне. Бачыць гэта было больш чым непрыемна. Асабліва, калі «выбівальшчыкам» быў пісьменнік. Па-другое, кідаўся ў вочы прыклад іншых краін: ні ў Расіі, ні ва Украіне, ні ў заходнееўрапейскіх дзяржавах ніякіх падобных званняў няма. Па-трэцяе, прыйшла вестка з Балгарыі: урад НРБ адмяніў званні ў літаратуры. І адмяніў па ініцыятыве саміх пісьменнікаў, якія ўбачылі ў гэтай завядзёнцы прыкмету правінцыяльнай старамоднасці. Хоць «завядзёнка» з'явілася яшчэ з 1913 года: першым народным быў вялікі Іван Вазаў. На жаль, маю ініцыятыву нашы народныя сустрэлі ў штыкі. Помню, патэлефанаваў Аляксей Дудараў, старшыня Саюза тэатральных дзеячаў: «Ніл Сымонавіч, пашкадуйце мяне: артысты заявілі, што разарвуць мяне на кавалкі, калі ганаровыя званні будуць адменены. Для іх гэта галоўны стымул творчага росту – мара пра званне...»

І, аднак жа, у галіне літаратуры «завядзёнка» ўжо даўно не працягваецца. Для недасведчаных скажу, што за ўсе 25 гадоў, як маю званне, ні адну сваю публікацыю я не падпісаў з дадаткам «Народны паэт». Калі дзе-небудзь такое было – гэта рабілі ў рэдакцыі без мяне. Як і ні разу за ўсё жыццё не начапіў на грудзі ордэны і медалі – ні айчынныя, ні замежныя. Ніколі, ні разу.

**– Вы шчаслівы чалавек? Што ў вашым уяўленні патрэбна для поўнага шчасця? Ці лічыце вы, што шчасце без кахання не існуе? Ці пашчасціла вам у жыцці на сапраўднае каханне?**

– Хіба можа пачувацца шчаслівым паэт, бачачы, які няшчасны, ашуканы, прыгнечаны, пазбаўлены нацыянальнай самасвядомасці – яго народ? Тут і каханне – толькі падтрымка, моцная, можа, нават выратавальная падтрымка. Мне пашчасціла – я зведаў яго, тое сапраўднае каханне, якое са студэнцкіх гадоў вяло мяне праз жыццё поплеч з цудоўнай жанчынай.

**– Што для вас азначае сяброўства? Ці магчыма сяброўства паміж літаратарамі? Які ўчынак вы лічыце недаравальным у сяброўстве? Ці маеце вы сяброў, якія не здрадзілі вам на працягу ўсяго жыцця?**

– Сяброўства – адзін з самых каштоўных дароў Божых. Блізкае сяброўства паміж літаратарамі? Не толькі магчыма, але і не такая рэдкая з'ява. Вядома, паміж аднадумцамі, аднапалчанамі.

Здрада сяброўству – адзін з самых цяжкіх грахоў чалавечых. Я такое зведаў, перажыў. Але верных сяброў, у тым ліку і даўніх, пажыццёвых, дзякаваць Богу, маю.

**– Ці ёсць у вашым творчым лёсе ўчынкі, за якія вам сёння сорамна перад людзьмі і самім сабой? Што б вы памянялі ў сваім жыцці, каб з'явілася магчымасць прайсці яго нанова?**

– Такіх учынкаў у сваім творчым лёсе, за якія мне было б сорамна і перад людзьмі, і перад самім сабой, я не помню. Памылковыя крокі рабіў, я не святы, – памылковыя, але не подлыя. Не такія, каб сёння пакутаваць ад згрызотаў сумлення. Літаратуры і навуцы я служыў у вышэйшай меры шчыра, душой не крывячы.

Каб прыйшлося пражыць нанова... У разважах пра жыццё я гэты ўмоўны лад: каб, калі б, а вось каб – не прымаю.

**– У 2009 годзе, вы дабраславілі часопіс «Верасень» на доўгае творчае жыццё... Дзякуй Богу, нягледзячы ні на што, часопіс і па сёння жыве, пашыраючы культурную і літаратурную прастору Беларусі. Што б вы пажадалі аўтарам і чытачам выдання напярэдадні свайго слаўнага юбілею?**

– І тым, і другім зычу аднаго: своечасова, не запозненна, пачаць думаць пра тое, як прайсці свой жыццёвы шлях з сыноўскай годнасцю, прыгожа, высакародна, а гэта значыць – у клопатах пра Бацькаўшчыну, пра яе веліч і славу.

**Гутарыў Эдуард АКУЛІН.**

*(«Верасень», 2016, №1.)*

СЛОВЫ СЯБРА

# Пытаюся…

*Светлай памяці Ніла Гілевіча*

Дружа, Ніл Сымонавіч, Ніле,
ты ў магіле?
Ты не на гэтым,
а на тым свеце?
Гэта ж вельмі далёка недзе?
За даляглядам? За небакраем?
Бо не бачу, не чую,
не размаўляем,
не вітаем адзін аднаго,
хоць стрэчаў-гаворак
было так многа…
А праўда, што зямелька пухам,
якую любіў ты сэрцам і духам,
якую – з моваю яе, з яе лёсам –
ты услаўляў радком узнёслым?
Напраўду, лёгкая, не цяжкая?
Ці, можа, іншая якая?

Яшчэ пытаюся з болем сардэчным:
– Ці сняцца сны табе
ў сне тваім вечным?
Калі яны сняцца –
пра што і якія?
Цудоўныя, добрыя ці благія?
Зрэшты, здагадацца можна.
Пэўна ж, сніцца табе трывожна
Маці-Радзіма,
любая, родная,
непаўторная і несмяротная, –
якую любіў ты
любоўю бязмернай,
якой служыў ты
праўдай і верай,
якая ўсё долю сваю шукае,
якой сягоння цябе не хапае.
Ведаю сам, праз сваю адзіноту.
Прабач за турботу…

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ.**

ЗАПРАШЭННЕ

## На сустрэчу з Нілам Сымонавічам

4 кастрычніка ў Музеі Максіма Багдановіча (Мінск, вул.Багдановіча, 7а) адбудзецца вечар, прысвечаны 85-годдзю Ніла Сымонавіча Гілевіча, з удзелам калег, сяброў, родных і блізкіх Паэта. Пачатак у 18.30. Уваход вольны.

Выступяць Анатоль Вярцінскі, Радзім Гарэцкі, Мікола Гіль, Зміцер Дашкевіч, Міхась Скобла, Вячаслаў Рагойша, Барыс Пятровіч, Алесь Пашкевіч. Песні на вершы Ніла Гілевіча праспявае Таццяна Грыневіч.

Запрашаем!

**Прэс-служба ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў".**

БОЛЬ

# Дакіраваліся…

Многае мяне звязвае са Слуцкам. Лепшыя гады жыцця прайшлі менавіта ў гэтым горадзе. Таму я з пякучым болем прачытаў нядаўна ў "Народнай Волі" артыкул Л.Лунёвай пра тое, як гіне тамтэйшы завод "Эмальпосуд".

Некалі на гэтым прадпрыемстве я працаваў дырэктарам. Можаце ўявіць, мне было толькі 26 гадоў, калі мяне прызначылі кіраўніком завода. Адна справа быць начальнікам цэха на аўтарамонтным заводзе, а другая – дырэктарам на "Эмальпосудзе". Праўда, тады ў яго была іншая назва – завод металавырабаў "Пралетарый".

Восем гадоў я аддаў прадпрыемству. Каб дабіцца ўнікальнай якасці прадукцыі, аб чым узгадвае Любоў Лунёва, давялося правесці не адну рэканструкцыю, укараніць найноўшыя тэхналогіі, падрыхтаваць высокакваліфікаваныя кадры рабочых і інжынераў.

Ліцейна-механічны завод, які стаў часткай "Пралетарыя", быў створаны ў далёкім 1925 годзе для вытворчасці тавараў народнага спажывання. Яго магутнасць не перавышала трох тысяч тон тонкасценнага ліцця ў год. Калі я ўзначаліў завод, усе аперацыі выконваліся ўручную – ад загрузкі шыхтавых матэрыялаў да разліву вадкага металу ў формы. Мала што памянялася, нягледзячы на тое, што быў узведзены новы корпус ліцейнага цэха магутнасцю сем тысяч тон прадукцыі ў год. З'явіліся толькі дзве больш сучасныя вагранкі.

Шмат намаганняў давялося прыкласці, каб многія працаёмкія працэсы былі механізаваны, аўтаматызаваны. Усе пералічаныя ў вышэйназванай публікацыі вырабы асвойваліся на заводзе ў маю бытнасць дырэктарам. Асабліва вялікі попыт быў на кухонныя мойкі. Нехта можа сказаць: што за праблема наладзіць іх выпуск? Заўважу: на той час кухонныя мойкі з'яўляліся надзвычай складанымі вырабамі. Для пакрыцця эмаллю неабходна было награваць іх у муфельных печах да тэмпературы каля 900 градусаў. Для гэтага спальвалі мазут, які падаваўся ў печы з дапамогай фарсунак. З-за нізкай якасці паліва цяжка было вытрымліваць тэмпературны рэжым. На выхадзе аказваўся вялікі працэнт браку, што адмоўна адбівалася на сабекошце прадукцыі. У той жа час панельнае будаўніцтва жылля інтэнсіўна развівалася, і ўрад патрабаваў ад нас з кожным годам значна павялічваць выпуск кухонных моек.

Зноў давялося ісці на тэхналагічнае пераабсталяванне. Адмовіліся ад малаэфектыўнага выкарыстання мазуту і перайшлі на электранаграванне, што ў сваю чаргу запатрабавала выканання ў вялікім аб'ёме розных электрамантажных работ. Арганізавалі лабараторыю, супрацоўнікі якой сталі кругласутачна сачыць за якасцю выпускаемай прадукцыі.

Узгадваючы тыя далёкія часы, не магу знайсці адказу на адно пытанне: чаму сёння слуцкі завод "Эмальпосуд" церпіць крах? Нікому не патрэбна яго прадукцыя? Наадварот, патрэбна. Як адзначае Л.Лунёва, попыт на яе ёсць, але ў гандлёвых кропках яе днём з агнём не знойдзеш. Не павінна быць падставай для закрыцця завода тое, што падскочылі кошты на метал, фармовачны пясок, электраэнергію. Навукова-тэхнічны прагрэс дазваляе ўкараняць больш эфектыўныя тэхналогіі і вырашаць злабадзённыя пытанні. Значыць, праблема палягае ў іншым – у недальнабачным кіраванні прадпрыемствам. Каб ўратаваць завод, я лічу, трэба тэрмінова знайсці на пасаду дырэктара вопытнага, ініцыятыўнага гаспадарніка, які ў сваю чаргу падбярэ здольную каманду спецыялістаў, менеджараў. Неабходна вывучыць рынак на бліжэйшую і аддаленую перспектыву па кожным відзе прадукцыі. Мэтазгодна перавесці вытворчасць вялікіх адлівак (загатовак) у земляную фармоўку на пляцу (пад заказ). Прыцягнуць замежныя фірмы ў якасці інвестараў, перадаўшы ў арэнду ці прадаўшы праз аўкцыён прадпрыемства, захоўваючы пры гэтым колькасць работнікаў. А самае галоўнае – вярнуць, захаваць спецыялістаў-ліцейшчыкаў.

Я не ўзяўся б за пяро, калі б мая душа не балела за сённяшнія сумныя вынікі той справы, якой я аддаў, паўтараю, восем гадоў. Але шкада, што мая дапамога ігнаруецца тымі, хто цяпер знаходзіцца ля руля, можна сказаць, дабітага завода. Мінулай восенню я быў у Слуцку і вырашыў наведаць прадпрыемства, сустрэцца з яго кіраўніцтвам і па душах пагаварыць аб лёсе "Эмальпосуду". І якім жа было маё здзіўленне, калі на прахадной мяне не пусцілі на тэрыторыю завода! Паводле слоў новаспечанага кіраўніка па прозвішчы Казак, ён моцна заняты з прадстаўнікамі Аршанскага завода "Легмаш", філіялам якога з'яўляецца "Эмальпосуд".

Не, падкрэсліваю, бяда не столькі ў крызісе, звязаным з многімі праблемамі, якія ўзніклі ў нашых усходніх суседзяў у сувязі з падзеннем цэн на нафту, колькі ў нашых гора-кіраўніках. Як кажуць, дакіраваліся… І тут сваё прынцыповае слова павінны сказаць беларускія ўлады. За крах на "Эмальпосудзе" павінны несці адказнасць як мясцовыя чыноўнікі, так і тыя, што сядзяць у галаўным міністэрстве. Ды і ўрад у адказе за развал завода!

**Іван Андрэевіч АГАРОДНІК, кандыдат тэхнічных навук.**
*г.Дзяржынск.*

ДЗЯКУЙ!

## Яны абуджаюць нацыянальную свядомасць

З вялікім захапленнем прачытала вершы Яўгена Гучка, надрукаваныя ў "Народнай Волі" за 16 верасня. Яны абуджаюць нацыянальную свядомасць, выхоўваюць унутраную свабоду.

Пабольш бы у "Народнай Волі" такіх вершаў – не толькі Я.Гучка, але і іншых творцаў. Дзякуй рэдакцыі і аўтару за такую публікацыю!

**Лідзія ЗІЗА.**
*Мінск.*

НУ І НУ!

## Пінчанін злавіў сома вагой 65 кілаграмаў



*"Цягала мяне рыбіна па рацэ хвілін сорак"*, – паведаміў Павел Ляхновіч.

Паводле слоў жыхара Пінска, падводнай рыбалкай ён займаецца каля 40 гадоў, але *"такі трафей здабыў упершыню"*.

*"Дагэтуль адрэналін кіпіць у крыві*, – распавёў **Павел Ляхновіч**. – *Страшна было, што сом сыдзе з гарпуна, дзе яго потым шукаць? Сом выгінаўся і нават спрабаваў ухапіць мяне зубамі. Я падцягнуў яго да берага, а потым дабіў нажом"*.

**Андрэй ЛАГУН.**

МНЕНИЕ

## И снова – удар ниже пояса

Уже на трех Олимпиадах подряд белорусские боксеры не завоевали ни одной медали.

В Рио участвовали три наших боксера. К сожалению, все трое проиграли свои поединки. С той лишь разницей, что П.Костромин (до 69 кг) выбыл после поражения в первом бою, а М.Долголевец (до 91 кг) и Д.Асанов (до 56 кг) проиграли свои вторые поединки.

Конечно, такие поражения вызывают у всех любителей этого мужественного вида спорта разочарование и показывают, что белорусский бокс продолжает находиться далеко не на подъеме. Что дальше?..

Надеюсь, после очередного провала чиновники из Министерства спорта и НОК серьезно разберутся, что же происходит в нашем боксерском хозяйстве. Видимо, пора Федерации бокса и ее председателю Дмитрию Тихомолову понять и признать, что завели бокс, как говорят, не в ту степь. Допустили, как мне кажется, ряд ошибок в кадровых вопросах, особенно в выборе главного тренера. И что произошло с призером чемпионатов Европы и мира С.Корнеевым, с которым мы связывали медальные надежды?

И еще хочется высказать ряд пожеланий. Во-первых, пора серьезно всколыхнуть все спортивные общества и области, соизмерив их вклад в развитие бокса. Во-вторых, нужно серьезно заняться развитием женского бокса как олимпийского вида спорта, где разыгрывается не один десяток медалей. В-третьих, необходимо поднять на современный уровень материально-техническую базу, финансирование и научно-методическое обеспечение. Если мы не решим эти проблемы в течение 3–4 лет, то останемся без медалей и на следующей Олимпиаде.

**Юрий ЯСИНСКИЙ, ветеран спорта, заслуженный тренер Беларуси.**

З ПІСЬМА…

## Аб'ядноўвайцеся!

Навошта нам столькі дробных палітычных партый! Патрэбна, скажам, адна сацыял-дэмакратычная партыя Беларусі, а не дзве малакольксныя. Партыя працы можа аб'яднацца з "Надзеяй". Па такім шляху павінны, на мой погляд, пайсці і іншыя партыі.

Пры мностве палітычных структур людзям цяжка зразумець, хто і якую пазіцыю займае.

Сітуацыя патрабуе і адзінага палітычнага лідара ад усёй апазіцыі.

**Алесь ЗАРАНОК.**
*г.Калінкавічы.*

ВАС ИНТЕРЕСУЕТ…

## Парады не отменят

***«Народная Воля» сообщала, что 3 тысячи минчан обратились в госструктуры с просьбой запретить военные парады в центре Минска и проводить их за чертой города. Каков результат этого обращения?***

**А.Сологуб, Минск.**

Судя по ответу, который пришел из Государственного секретариата Совета безопасности Республики Беларусь, от военных парадов в столице не откажутся.

*«Изучение возможностей по проведению парада войск с использованием военной техники на полигоне свидетельствует об увеличении затрат на его подготовку и проведение, снижение зрелищности и эмоционально-патриотического подъема населения ввиду неудобств, связанных с доставкой зрителей к месту проведения парада и отрывом от общих мероприятий празднования»*, – говорится в письме.

В письме также утверждается, что ограничение работы городского транспорта во время репетиций и проведения парадов незначительное: менее чем на 2% от запланированного количества рейсов. А *«дефекты проезжей части, возникающие при передвижении техники с гусеничными движителями»*, вовремя ремонтируются.

ИСТОРИЯ СНИМКА

# Дружная семья Лукшей

В этом старинном приземистом доме, что по главной улице деревни Маньковичи, всегда звучали и звучат детские голоса. Его первые хозяева – продолжатели добротного рода полешуков – пережили лихолетье двух мировых войн, сохранили свое скромное подворье в условиях польской демократии и советской коллективизации.

Родители нынешнего владельца дома Александра Павловича Лукши давно уже покоятся на деревенском погосте рядом со своими многочисленными сородичами. Их души, вознесшиеся в небесную благодать, несомненно, довольны. На земле они оставили добрый след, добавили в родовую пирамиду еще шестерых своих прямых наследников, 26 внуков и 48 правнуков.

Родившийся в 1954 году Александр Павлович Лукша после службы в армии, не раздумывая над лестными предложениями разных вербовщиков, вернулся в родную деревню, где прошло его озорное детство и непоседливая юность, где лучшими друзьями были его сестры и братья, а любимой подружкой – Галина. Она, Галина Никоновна, и стала много лет назад женой Александра Павловича, внеся в старенький дом животворное женское тепло.



Судьба благоволила молодой чете и дружной семье. Сельчане прониклись неиссякаемым уважением к Александру и Галине за их добрый нрав, порядок и уют в доме, добрососедство и милосердие. После дневной работы на производстве они, как неугомонные воробушки, суетились на подворье: делали пристройки, обновляли пол, крышу, стены, словом, старались, чтобы дом стал надежным, добротным, красивым.

– Семья Лукшей никогда не была проблемной для местной власти, – говорит председатель сельского Совета Наталья Антоновна Расько. – Они прекрасно воспитали своих восьмерых детей, к которым всегда тянулась соседская ребятня. Все дети Лукшей крепко стоят на ногах – Павел, Дмитрий, Сергей, Александр, Анна, Надежда, Алексей и Ольга. Родители уверены в них, поскольку каждого отличают трудолюбие и высокая нравственность.

Все дети Лукшей, кроме Павла, живут в своих домах, построенных на принципах семейного кооператива.

– За них я не беспокоюсь, – говорит Галина Никоновна. – Слава Богу, выросли крепкими, работящими. Вот и у Павла будет отдельный дом. Участок выделен, всем семейством помогаем в строительстве…

Есть поддержка и со стороны властей. Семье предоставлен льготный кредит как многодетной. Но вот неувязка возникла – оказывается, из-за временного отсутствия средств на эту программу в Столинском райисполкоме с выделением денежных средств придется подождать.

Пока Павлу с Юлией и их детишками приходится ютиться в отцовском доме, в котором на площади в 90 кв. метров прописано аж 15 человек. Как было бы здорово, если бы районная власть все-таки поторопилась с предоставлением кредита этой дружной семье. Кстати, из восьмерых детей Лукшей-старших Павел первый, кто обратился за помощью к государству, все проблемы члены семьи решали собственными силами.

**Виктор БРУЦКИЙ.**
*Столинский район.*

**На снимке:** *семья Лукшей в неполном составе.*

РУБАМ!

## Застаўся без працы, а пенсія не хутка…

Пішу ў "Народную Волю" пра, на мой погляд, несправядлівы ўказ №137 "Аб удасканаленні пенсіённага забеспячэння". У ім пазначана: *"Узрост, які дае права на працоўную пенсію па ўзросце і працоўную пенсію за выслугу гадоў… павышаецца штогадова 1 студзеня на 6 месяцаў…"*. Але для асоб, якія нарадзіліся ў другой палове года, неабходна адпрацаваць яшчэ па паўгода за гады, якія адпрацоўваюцца звыш нормы. Атрымліваецца год за год. А ў маім выпадку 2 гады: народжаны 30 кастрычніка 1958 года.

Звяртаўся ва ўсе інстанцыі: ад Адміністрацыі прэзідэнта да Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. Адусюль атрымліваю адпіскі і парады звяртацца ў суд. У Канстытуцыйным судзе, які, па логіцы, павінен спыніць дзеянне дадзенага ўказа, таксама парэкамендавалі шукаць адваката.

Праблема ў тым, што ў сакавіку я быў скарочаны і звольнены з працы ў перадпенсіённым узросце 57,5 года. Стаю на ўліку на біржы працы, але работы няма. Без заробку і дапамогі я не ў стане аплаціць судовыя выдаткі.

Звяртаюся праз газету з просьбай дапамагчы з адвакатам, які мог бы адстаяць мае (і многіх грамадзян) інтарэсы – правы тых, хто трапіў у сітуацыю эканамічнай і сацыяльнай дыскрымінацыі. Асабліва гэта тычыцца мужчын 1957–1959 і жанчын 1962–1964 гадоў нараджэння.

Адвакату гарантую аддаць кампенсацыю матэрыяльнай шкоды, якая нанесена мне за два гады ў выніку дзеяння ўказа №137 і якую я разлічваю атрымаць.

**З павагай – Іван Канстанцінавіч КАСАБУЦКІ.**

**АД РЭДАКЦЫІ**

*Шаноўны Іван Канстанцінавіч! Мы друкуем Ваш ліст, але ў нас, на жаль, няма магчымасці дапамагчы Вам з адвакатам.*

ОГРАБЛЕНИЕ ПО-БЕЛОРУССКИ

# И даже не извинились…

Добрый день, дорогая «Народная Воля»!

Позвольте обратиться через вашу газету к руководству «Беларусбанка» и поведать свою историю.

Живу я в Барановичах. За долгие годы заработала честным, тяжелым трудом и сэкономила на отказе часто от самого необходимого 5000 рублей – весомую, как мне тогда казалось, сумму, положила ее на хранение «на черный день» в еще советский Сбербанк. В моей сохраненной с тех пор сберкнижке датой 13.03.90 в графе «Приход» так и означено: 5000 рублей. Думала, заживу спокойно.

Да где там! «Черный день» непонятных потрясений настал, и вкладчики забеспокоились: что будет с нашими деньгами? Мы тогда отнеслись с пониманием к ситуации. Когда обращались с требованием вернуть нам заработанное, нас убедительно просили подождать чуток, мол, скоро будут улучшения. Народ терпеливо ждал. И дождался… Сладкие обещания вернуть вклады давно повисли и растворились в воздухе вместе с надеждами…

Но вот не так давно услышала рекламу «Беларусбанка» (который, как понимаю, унаследовал и наши вклады, и обязательства Сбербанка) о том, что они наконец поднялись с колен. Решила узнать судьбу моего давнего вклада. Догадывалась, конечно, что картина вряд ли будет розовой, но все же…

30 июля 2016 года отправилась в отделение «Беларусбанка» по улице Царюка в Барановичах и, дождавшись очереди, подошла к окошечку кассира О.Ю.Гордеевой. Предъявила свою старую сберкнижку, где бы указан размер вклада, и попросила сообщить, что же с ним теперь. Долго кассир-контролер искала данные в компьютере – и не справилась самостоятельно, позвала на помощь коллег. Колдовали они, колдовали и наконец предложили мне подписать квитанцию:

– Сейчас отдадим вам весь остаток на вашем счете!

Признаюсь, подписала я ту бумажку, толком не прочитав и не разобравшись: забыла дома очки. Ну и ошибку сделала! Хотя что бы я могла изменить в том абсурде, который теперь называется «порядок»?

Сразу же подписанная мной квитанция была изъята пришедшей на помощь коллегам сотрудницей, которая быстро удалилась. И вот мне несут законную «компенсацию»! Гляжу – две малюсенькие монетки нового образца по одной (одной!!!) копейке. Слышу радостно-торжествующее:

– Это ваш остаток. Ваш счет закрыт!

Понимаю: упрекать этих банковских сотрудниц нет оснований, они выполняют предписания свыше. Но вот сказать спасибо «Беларусбанку» за «сохранность» моих денег, увы, не смогу. Да и не хочу. Меня попросту, пусть и «законно», ограбили. И мой счет к несправедливости не закрыт. Мне очень и очень обидно. Да разве только мне? Тысячи и тысячи граждан потеряли трудом – и огромным трудом – заработанные деньги. И где они, у кого оказались? Ведь есть непреложный закон природы и общества: ничто никуда не исчезает, а только преобразуется из одного состояния в другое. И если уменьшается в одном, то столько же прибавляется в другом…

Недаром ведь именно с тех пор, как государство отобрало наши несбереженные сбережения, начали бурно и нахально расти, как грибы после теплого дождика, дворцы разных начальников, начальничков и просто «расторопных», ухватистых дельцов. И это только то, что режет глаз повсюду. А если копнуть глубже?

Что, неправду говорю? Порой кое от кого слышишь: а ведь богатеи наши – люди аж семи пядей во лбу, страшно умные, собственной головой и недюжинным талантом все враз заработали. И нечего их корить.

Вы верите в эти сказки? Я – нет. Ведь ограбили-то нас по-настоящему. И даже не извинились, посмеялись над нами за тяжелый труд во имя «коммунистического рая» и наивную доверчивость простых работяг…

**С уважением – Любовь Сергеевна ЛЕБЕДЕВА, жительница Барановичей.**
*г.Барановичи.*

Народная Воля
http://www.nv-online.info
30 ВЕРАСНЯ 2016 г.

ПИСЬМА С КРЕЩАТИКА



Александр ФЕДУТА

# Украинский градус

Предстоящая зима для украинцев может быть не самой теплой. В прямом и переносном смыслах. Тарифы, например, на электроэнергию нынче установлены в размере 0,71 гривны за киловатт-час. Чтобы читатели «Народной Воли» могли сравнить, скажем: курс сегодня составляет примерно 26 гривен за доллар США. И действует этот тариф при потреблении до 100 кВт·ч электроэнергии в месяц. А все, что выше, оплачивается уже по другим нормативам: от 100 до 600 кВт·ч – 1,29, от 600 кВт·ч – 1,638 гривны.

Это много. Правительство предусмотрело субсидии и другие формы компенсации для пенсионеров, инвалидов, многодетных семей. Но это все равно – много. И объяснять до бесконечности рост тарифов тем, что идет война, что "все для фронта, все для победы", уже не слишком-то получается. Избиратели задают вопросы: власть, ты же обещала, что война вот-вот закончится, а ей ни конца ни краю не видно. Где же мир?

Тяжелый вопрос. Непростой вопрос.

На этом фоне растет популярность оппозиционных сил, ведущая из которых сегодня – «Батькивщина» Юлии Тимошенко. Радикально сменив имидж (отказавшись от косы-«паляницы» на голове), Юлия Владимировна выходит в телеэфир для того, чтобы произнести главное слово:

– Тарифы!

Еще год назад украинские журналисты подозревали, что «Юля» попросту сошла с ума. Как же! Война, антитеррористическая операция, а она – о тарифах! Но год прошел, и социологи показали: по мере роста тарифов на электроэнергию, отопление, прочие коммунальные услуги, растет и рейтинг Тимошенко и ее партии. «Тарифы!» – ключевое слово, действующее почти как заклятие. Призывы и подпрыгивания с воплем «Путин – х...ло!» действуют преимущественно на молодежь, но голосует-то – не она. Голосуют те, кому приходится самим платить за отопление да еще и оплачивать жилье детям, не способным обогреть себя на стипендию.

В этих условиях вопрос «трибуны» решает многое. В Украине разветвленная система телевизионных каналов – на всякий вкус и всякую политическую позицию. Свобода прессы была завоевана в Украине не на Майданах, а задолго до них, и независимое телевидение сыграло решающую роль в том, что люди потом на Майдан и вышли. В 2004 году "объединителем" стал «5-й канал», принадлежащий (до сих пор) Петру Порошенко. В 2013–2014 гг. появилось множество малых телеканалов, и самым влиятельным средством массовой информации оказался скорее интернет, но…

Но голосующие в массе своей все равно смотрят телевидение больше, чем заглядывают на новостные сайты в компьютер. Это понимает власть, это понимает оппозиция, это понимает крупный олигархический бизнес: наличие собственного телеканала позволяет сохранить свои позиции и в политике, и в экономике.

Вот почему никого не удивило, когда в последние несколько недель по Киеву поползли слухи: власть выкручивает руки (в переносном, конечно, смысле) крупному бизнесу, желая отнять у него часть акций, которые позволили бы контролировать ведущие телеканалы Украины. Таких несколько: канал «1+1», принадлежащий Игорю Коломойскому, ICTV, принадлежащий зятю Леонида Кучмы Виктору Пинчуку, и «ІНТЕР», контролируемый бывшим главой администрации Виктора Януковича Сергеем Левочкиным и «газовым олигархом» Дмитрием Фирташем. Заговорили о том, что давление оказывает депутат Игорь Кононенко, действующий в интересах и чуть ли не по прямому поручению своего бывшего партнера по бизнесу… Петра Порошенко.

Скандал совпал с двумя информационными кампаниями, которые довольно резонансно прошли по телеэфирам. Одна из них была обращена против «ІНТЕРа», который обвинили в подрывной деятельности на благо России. Вторая обрушилась на известного эстрадного комика Владимира Зеленского, который не слишком удачно покритиковал украинскую власть на фестивале «ЮрмаЛіто». И то, и другое было воспринято как форма политического давления. И хотя Игорь Кононенко категорически открестился от обвинений в подобных попытках – но вы-то сами знаете, как бывает в таких случаях: серебряные ложечки найдутся, но вот осадочек останется.

В любом случае очевидно: по мере приближения угрозы досрочных парламентских выборов (о президентских пока никто не говорит) вопрос контроля над средствами массовой информации в Украине становится все более горячим. Его «градус» растет по мере того, как падает «градус» в квартирах украинцев. А он таки падает. С наступлением холодов резко падает.

ЗАКУЛІССЕ

## Яфім ШЫФРЫН: «Беларусь мне не чужая...»

Днямі на сцэне Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра прайшоў юбілейны канцэрт вядомага артыста Яфіма Шыфрына.

Напярэдадні Шыфрын з экскурсіяй прагуляўся па горадзе, а кароткую справаздачу выклаў у сябе на старонцы ў сацыяльнай сетцы Facebook.

*«Усе беларускія гарады бездакорна чыстыя,* – адзначыў артыст. – *Гэтай паўсюднай акуратнасці і прыбранасці (нават у вёсках!) не можа не заўважаць любы падарожнік».*

Канцэрт Яфіма Шыфрына ў Гродне праходзіў у той дзень, калі ўсе сусветныя сродкі масавай інфармацыі паведамілі пра смерць ураджэнца Беларусі, патрыярха ізраільскай палітыкі Шымона Перэса.

*«Паколькі я зараз знаходжуся ў Беларусі, паведамленні пра яго смерць чапляюць шмат публікацый, звязаных з яго беларускімі каранямі,* – сказаў Шыфрын. – *Забаўна, што амаль увесь істэблішмент Ізраіля бегаў калісьці басанож уздоўж берагоў Дняпра або Прыпяці. Здаецца, што Беларусь увогуле можна назваць сапраўднай кузняй палітычных кадраў для гэтай краіны...»*

Дарэчы, карані самога Яфіма Шыфрына таксама паходзяць з Беларусі.

*«Мама з Лядаў, бацька з Дрыбіна,* – распавядае артыст. – *Гэта такія маленькія мястэчкі ў Магілёўскай вобласці недалёка ад Оршы.*



*Маміна сястра выкладала ў аршанскай школе рускую літаратуру, а татаў малодшы брат – матэматыку».*

Бацьку Шыфрына абвясцілі ворагам народа і саслалі на Калыму.

*«Маме было 35 гадоў, а жанчыі пасля вайны былі на вагу золата...* – дзеліцца падрабязнасцямі гісторыі сваёй сям'і Шыфрын. – *Мама і тата, ні разу не бачачы адзін аднаго, з падачы родных пачалі перапісвацца, выслалі адзін аднаму фота. Як распавядалі мне бацькі, яны страшна спадабаліся адзін аднаму ў лістах. І тады мама рашылася. Яна на цягніку два тыдні ехала праз усю краіну да Уладзівастока. Затым на пароме да Магадана. А потым з Магадана на нейкім спадарожным грузавіку даехала да татавага пасёлка... Адправіцца да «ворага народа» без грошай, незразумела куды... Я за гэта люблю сваіх бацькоў, якія нарадзілі трох сыноў.*

*Мой родны дзядзька, сяржант Іосіф Цыпін, сустрэў вайну ў 333-м палку Брэсцкай крэпасці, у якім, дарэчы, служыў і старэйшы брат Эдуарда Шэварднадзэ – Акакій. На першым здымку я стаю на месцы, дзе размяшчаўся гэты полк. Не так даўно ў музеі Брэсцкай крэпасці мне паказалі асабістую справу Язэпа: я даведаўся, што незадоўга да вайны, зімой 1941 года, ён атрымаў значок выдатніка РККА, удзельнічаў у рукапашнай на плошчы перад цяперашняй царквой (я захаваў гэтае месца на другім здымку), а загінуў у лагеры для ваеннапалонных каля горада Бяла-Падляска..."*

Між іншым, у Беларусі нядаўна былі выдадзены запіскі бацькі вядомага артыста Залмана Шыфрына "Сумная рапсодыя". Кніга распавядае пра жыццё палітвязняў, якія прайшлі ўсе колы сталінскага пекла – і засценкі, і залатыя капальні, і вальфрамавыя руднікі Крайняй Поўначы.

*«Калі мама з'ехала да папы на Калыму, у Оршы засталася бабуля, у якой я бываў кожныя два гады падчас татавых калымскіх адпачынкаў,* – успамінае артыст. – *Нядаўна я туды з'ездзіў. Але Оршу не пазнаў. Ад таго, што мне запомнілася ў дзяцінстве, там нічога ўжо не засталося. Абсалютна ўсё іншае. Як быццам узялі і на яе месцы пабудавалі новы горад: вельмі прыгожы, зручны, як у каталогу».*

*«Беларусь для мяне не чужая,* – кажа Яфім Шыфрын. – *Беларусаў я лічу сваімі землякамі».*

**Марына ВІШНЕЎСКАЯ.**

ЗАПРАШЭННЕ

### Хірокі ТАКУНАГА, амбасадар Японіі ў Беларусі:

## «Японская восень будзе насычанай»

*Да 1 лістапада ў Беларусі праходзіць фестываль "Японская восень".*

Фестывальныя мерапрыемствы адбудуцца ў розных гарадах. Фестываль прысвечаны аспектам традыцыйнай і сучаснай японскай культуры – баявым мастацтвам, музыцы, кіно, каліграфіі, літаратуры, жывапісу, чайнай цырымоніі.

У гэтыя дні ў сталічным кінатэатры "Перамога" праходзіць Тыдзень сучаснага японскага кіно. Усе фільмы аб'яднаны агульнай тэматыкай – каханне і маладосць.



Дарэчы, кіно паказваюць на японскай мове з рускімі субцітрамі. Уваход – вольны. Уваходныя квіткі можна атрымаць у дзень паказу ў фае кінатэатра за гадзіну да пачатку сеанса.

*«Мы хочам пазнаёміць беларусаў з рознымі аспектамі традыцыйнай і сучаснай японскай культуры,* – адзначае Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Японіі ў Беларусі **Хірокі Такунага.** – *Радуе той факт, што японскім майстрам, якія бралі ўдзел у мерапрыемствах нашага фестывалю мінулых гадоў, вельмі спадабалася ў Беларусі і яны з задавальненнем пагадзіліся прыехаць да нас і ў гэтым годзе. Таксама хачу выказаць шчырую падзяку ўсім беларускім удзельнікам фестывалю, арганізатарам мерапрыемстваў у Беларусі за іх энтузіязм і невычэрпны творчы патэнцыял. Дзякуючы іх намаганням, з кожным годам фестываль «Японская восень у Беларусі» становіцца ўсё больш разнастайным і насычаным».*

**Аліна ВЕТРАВА.**

РЕЛИГИЯ

## Россия запретила «Аум Синрикё»

*Такое решение принял Верховный суд.*

Уголовное дело о создании религиозной группы, чьи действия сопряжены с насилием, весной возбудил Следственный комитет России. Процесс, по результатам которого «Аум Синрикё» окончательно потеряла легальный статус, прошел в закрытом режиме.

В России организация была признана террористической еще в 2000 году – спустя пять лет после акции в токийском метро. Тогда на пяти станциях подземки последователи «Аум Синрикё» распылили нервно-паралитический газ зарин. Погибли 12 человек, более тысячи пострадали.

По данным Генпрокуратуры, сейчас «Аум Синрикё» может насчитывать в России до 30 тысяч последователей.

ДЫПКУР'ЕР

## У Мінску акрэдытаваны тры дыпламаты Паўночнай Карэі

Нічога сенсацыйнага ў гэтым няма. *"У Пхеньяне працуюць дыпмісіі парадку 30 дзяржаў, прычым гэта не толькі Кітай або Расія, але і Аўстрыя, Вялікабрытанія, Германія і Польшча. Паўночнакарэйскія амбасады таксама спраўна функцыянуюць практычна ў чатырох дзясятках краін, напрыклад, у Чэхіі, Швецыі, Мексіцы, ПАР"*, – заявілі парталу TUT.BY ў МЗС Беларусі.

КНДР звярталася да беларускага боку па пытанні адкрыцця пасольства задоўга да цяперашняй эскалацыі сітуацыі вакол ядзернай праграмы Пхеньяна. Гэта было зроблена ў ходзе візіту міністра замежных спраў КНДР у Беларусь у сакавіку 2015 года. Тады ж дамовіліся развіваць гандлёва-эканамічныя адносіны, што важна для Беларусі, якая мае адкрытую эканоміку. Пасля гэтага візіту пры МЗС Беларусі былі акрэдытаваны тры паўночнакарэйскія дыпламаты, якія займаюцца гандлёва-эканамічнымі адносінамі.




Пры гэтым, звярнулі ўвагу ў МЗС, паўнавартаснай дзеючай амбасады КНДР у Беларусі няма: *«Амбасадар не акрэдытаваны, запыту на агрэман не было, рашэнне па гэтым пытанні будзе прымацца асобна».*

ЧАСТНАЯ ЖИЗНЬ

# 770 – НА ШЕСТЕРЫХ

## Как жительница Полоцка одна воспитывает пятерых детей

*Несколько лет назад Наталья РАБЧИНСКАЯ развелась с мужем, который злоупотреблял спиртным. С тех пор ответственность за семью полностью легла на ее плечи.*

*Несмотря на трудности, полочанка не жалуется на жизнь, хорошо выглядит и даже не думает пасовать перед проблемами.*

*Как сегодня живет многодетная семья?*

*На какую помощь от государства может рассчитывать?*

*Сколько нужно денег, чтобы дети ни в чем не нуждались?*

*Об этом и многом другом Наталья Рабчинская рассказала «Народной Воле».*



### Одна в семье

Семья Рабчинских живет в трехкомнатной квартире в микрорайоне «Аэродром». Хозяйка приглашает в дом и угощает кофе. У Натальи две дочки и три сына: старшая Карина замужем и живет отдельно, Артем – студент сельскохозяйственного лицея, а Лия, Герман и Тимофей еще школьники. Также полочанка ухаживает за 89-летней бабушкой, которая ее вырастила.

– *Я рано осталась без родителей*, – вспоминает Наталья. – *Когда мне было полтора года, умерла мама, отец устраивал личную жизнь, а моим воспитанием занималась бабушка. Теперь вот я ухаживаю за ней. Хотя у нее есть свои дети, но думаю, что так правильно.*

Братьев и сестер у Натальи нет. Создавая свою семью, женщина мечтала, чтобы у детей в жизни были родные люди, которые всегда смогут помочь. Больше шести лет воспитанием дочек и сыновей жительница Полоцка занимается одна. Признается, что первое время было очень тяжело.

– *С мужем мы прожили 15 лет*, – рассказывает многодетная мама. – *Конечно, он не всегда злоупотреблял, но в последние годы возникла серьезная проблема. Были попытки бросить, лечение, кодировки, но все безуспешно. Надеялась, что он изменится, все-таки у нас столько детей, но этого не произошло. Поэтому приняла такое решение.*

Бывший муж не оказывает детям никакой помощи, у него большой долг по алиментам, но выплатить его он не в состоянии. Мужчина не работает и продолжает злоупотреблять алкоголем. А вот с его родственниками сложились добрые отношения, и от их помощи Наталья не отказывается.

Несколько лет назад многодетная мама была вынуждена оставить работу на «Полоцк-Стекловолокне», на котором отработала 17 лет, из-за проблем со здоровьем у младшего сына Тимофея.

– *Во время беременности произошел очередной скандал с мужем*, – говорит Наталья. – *Из-за переживаний и стресса возникли осложнения. Меня положили в областную больницу. Медики диагностировали у сына «кислородное голодание мозга». До трех лет ребенок много болел, поздно начал ходить и говорить. Сейчас у Тимофея группа инвалидности из-за проблем с речью. Для своих 8 лет он разговаривает плохо.*

Сегодня Тимофей Рабчинский обучается в интегрированном первом классе общеобразовательной школы. По словам многодетной мамы, лечение в Полоцке сводится только к приему таблеток. По предварительным прогнозам медиков, Тимофей полноценно должен заговорить к 16 годам.

– *Наиболее эффективный курс лечения мы смогли пройти в минском Научно-практическом центре оториноларингологии*, – рассказывает Наталья. – *Конечно, там работают высококвалифицированные специалисты, и самое главное – у сына была отмечена положительная динамика. Но попасть туда очень трудно, и даже первое направление мне пришлось выбивать. Если бы появилась возможность проходить курсы лечения регулярно, то, конечно, Тимофей пошел бы на поправку гораздо быстрее. Все мои попытки добиться очередного направления пока остаются без результата.*

### Хозяйка в доме

Всю мужскую работу по дому Наталья выполняет сама. Признается, что за эти годы научилась держать в руках молоток, делать ремонт и даже люстру самостоятельно вешать приходилось. Сейчас по хозяйству многодетной маме помогают старшие дети.

– *Карнизы, светильники, розетки… всем сама занималась*, – смеется полочанка. – *Не обходилось и без ударов током первое время. Мне ведь некого просить, поэтому интересовалась, узнавала и делала все самостоятельно. Теперь вот Артем учится на электрика, надеюсь, что мне больше не придется этим заниматься.*

Сегодня в семье Рабчинских три школьника. Подготовкой к новому учебному году занимались несколько месяцев. Собрать детей было непросто, но, как признается Наталья, в школу ее дети пошли в новой одежде и со всеми принадлежностями.

– *Более 12,5 миллиона (старыми) нам стоило собраться*, – вспоминает жительница Полоцка. – *Тетради, ручки, контурные карты, цветные карандаши… все купили. Так что мои дети ни чем не хуже других.*

Интересуюсь у хозяйки дома: помогает ли государство многодетным семьям собираться в школу?

– *В этом году было выплачено по 270 тысяч (старыми) на ребенка. Также нам положена единовременная адресная социальная помощь, но я пользуюсь ею ближе к зиме, потому что зимние вещи дорогие и одеть детей непросто.*

**– Каков ваш семейный бюджет на месяц?**

– *Нам платят пособие по инвалидности, также я получаю пособие по уходу за ребенком-инвалидом. Всего получается около 6 миллионов (старыми). Я оформила уход за бабушкой, за который платят 1 миллион 700 тысяч. Вот и весь бюджет.*

Наталья Рабчинская не отказывается и от разных подработок: владеет навыками парикмахера, может помочь с ремонтом квартиры. По словам многодетной мамы, голодать и побираться ей и детям никогда не приходилось.

– *Нередко себе в чем-то отказываю*, – говорит жительница Полоцка. – *Но за пустым столом мои дети никогда не сидели. Хотя разное случалось: приходилось и в школу ходить разбираться, когда детей сверстники обижали. У нас принято считать: если семья многодетная, то обязательно неблагополучная. Нынешние дети, к сожалению, очень злые растут… Но сейчас отношения наладились.*

Кстати, учащаяся четвертого класса Лия Рабчинская подает большие надежды: школьницу пригласили на республиканский проект «Я пою», а также на съемки передачи «В гостях у сказки».

### Материнский орден

В начале лета Наталье Рабчинской была вручена государственная награда – орден Матери. Как признается жительница Полоцка, конечно, приятно получать поздравления, но у этого события была предыстория.

– *После рождения пятого ребенка я узнала, что должен вручаться орден Матери*, – рассказывает Наталья. – *Через какое-то время поинтересовалась у местных властей, на что получила ответ: «Орден надо заслужить». Чиновники разговаривали со мной таким обидным тоном, что я решила пойти на принцип.*

*Более трех лет длилась моя переписка с чиновниками. Местные власти меня обманывали, появлялись постоянно какие-то причины: придумали, что якобы один из сыновей состоит на учете в милиции, чего никогда не было. В итоге мне удалось доказать, что Витебский облисполком по моему вопросу был дезинформирован.*

Кроме получения ордена Матери в этом году у Натальи Рабчинской произошло еще одно радостное событие – старшая дочь Карина родила сына Гордея.

О трудностях, которые пришлось пережить, Наталья сейчас говорит спокойно. Когда слышит новости о том, что некоторые женщины в Беларуси пытаются избавиться от новорожденных, искренне этого не понимает:

– *Когда читаю о таких случаях, не верю, что так можно поступить. Конечно, у всех разные ситуации: рожают сейчас рано, не все материально обеспечены и так далее. Но доводить до таких крайностей нельзя. Возможно, женщин пугает финансовая сторона или просто в нужный момент не с кем поговорить. Но сегодня достаточно различных психологов, «горячих линий», да и в каждом городе есть церковь, откуда, мне кажется, уж точно не выгонят. Мне тоже было нелегко одной первое время…*

**– Личную жизнь пытались наладить после развода?**

– *У меня были отношения, но мужчину пугает такое количество детей, и не каждый готов взять на себя ответственность за них. Хотя на чужую помощь я никогда и не рассчитывала.*

**– О чем сегодня мечтает многодетная мама Наталья Рабчинская?**

– *Хочу, чтобы в жизни у детей все сложилось хорошо. Чтобы они были вместе, помогали друг другу и жили в достатке. И, конечно, чтобы Тимофей поскорее поправился.*

**Роман ВАСЮКОВИЧ.**

АСАБІСТАЕ



# Домрачава выбрала 6-ы радзільны дом?

## *Трохразовая алімпійская чэмпіёнка ў хуткім часе стане маці.*

Да апошняга часу лічылася, што Дар'я будзе нараджаць у 5-м радзільным доме. Яшчэ падчас суботніка ў 2014 годзе Лукашэнка заклікаў біятланістку нарадзіць двайнят і паабяцаў асобную палату ў 5-м раддоме.

Тым часам з'явілася інфармацыя, што вядомая спартсменка, якая чакае дзіця ў наступным месяцы, выбрала ў Мінску 6-ы радзільны дом, у якім у гэтым годзе адкрылі ўнікальнае аддзяленне маці і дзіцяці з радзільнай залай і дзвюма палатамі кватэрнага тыпу.

*“Новае аддзяленне – з асобным уваходам*, – распавяла галоўны акушэр-гінеколаг камітэта па ахове здароўя Мінгарвыканкама **Ірына Іканастасава**. – *Палаты – прасторныя, нагадваюць пакоі-студыі, каб у бальнічных сценах жанчына адчувала сябе максімальна камфортна. У пакоі – двухспальны ложак, санвузел з душам, міні-кухня, пліта, тэлевізар і халадзільнік. У такой палаце жанчына можа знаходзіцца да родаў і пасля з'яўлення дзіцяці на свет. Побач з ёй могуць быць і блізкія”.*

У бальніцы ёсць як бясплатнае аддзяленне, так і бюджэтнае. Памер сумы залежыць ад пакета медыцынскіх паслуг, які выбярэ жанчына. Напрыклад, кругласутачнае дагляданне за маці і дзіцяці пасля родаў каштуе 47,26 рубля за дзень. Індывідуальнае вядзенне родаў з абязбольваннем – каля 300 рублёў.

Што тычыцца канкрэтна Домрачавай, то ў радзільным доме катэгарычна адмовіліся размаўляць на гэтую тэму.

*“Прыватнае жыццё нашых пацыентаў мы не абмяркоўваем”*, – коратка заявілі там.

Дарэчы, муж Домрачавай – вядомы нарвежскі біятланіст **Б'ёрндален** – заявіў раней, што збіраецца прысутнічаць пры родах.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ЗАКУЛІССЕ

# Святлана Зелянкоўская актыўна здымаецца ва Украіне

*Вядомая актрыса і жонка лідара гурта Brutto Сяргея Міхалка жыве з мужам ва Украіне. Хаця да гэтага часу яна лічыцца ў трупе Купалаўскага тэатра, на мінскую сцэну Зелянкоўская ўжо даўно не выходзіць. А вось ва Украіне ў яе шмат работы.*

– Адзін з кінапраектаў ужо выйшаў у эфір – гэта 95 серый “Спявачкі”, – распавяла Святлана ў інтэрв'ю kyky.org. – У мяне там адна з галоўных роляў: я іграю маму галоўнай гераіні. Другі праект – гэта поўны метр, украінскі сямейны фільм «Неба». Там ёсць дзіўная тэма і тэма перасялення душ. А ідэя ў тым, што народам даводзіцца аб'ядноўвацца і раз'ядноўвацца, мірыцца і знаходзіць кампраміс, таму што інакш – ніяк. У мяне там роля мамы 9-гадовага хлопчыка, які марыць лятаць.

Ва Украіне ў кіно ўсё вельмі актыўна, шчыльна і невераготна. У мяне шмат прапаноў і проб, і мае агенты ўжо дзеляць дні. У адрозненне ад Мінска работа проста віруе!



**На фота:** *Святлана Зелянкоўская на здымках украінскага праекта “Спявачка”.*

НОРАВЫ

# Расстраляў… школу

У адной са школ Гродна каля паўночы былі пашкоджаны шыбы. Як высветлілася, стралялі па іх з пнеўматычнай зброі. Па факце хуліганства была заведзена крымінальная справа.

«Асоба падазронага была высветлена – ім аказаўся 25-гадовы жыхар Гродна. Ён прызнаўся ў зробленым і выдаў пнеўматычны пісталет, з якога страляў па вокнах у школе», – паведаміў прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта па Гродзенскай вобласці **Сяргей Шаршаневіч.**

Працуе падазроны ў адной з абласных устаноў культуры. З яго слоў, у момант здзяйснення злачынства ён быў нецвярозы. А страляць пачаў са злосці: вырашыў адпомсціць навучальнай установе за сваю некалі кепскую вучобу.

СПАДЧЫНА

# Радзівілы «вярнуліся» ў Мір

Мірскі замак набыў унікальную калекцыю партрэтаў князёў Радзівілаў, паведаміла спецыя-ліст па сувязях з грамадскасцю ўстановы «Музей «Замкавы комплекс «Мір» **Анаіт Арзуманян.**

«Сцены Партрэтнай залы Мірскага замка цяпер упрыгожаны арыгінальнымі партрэтамі, якія музей набыў у князя Канстанціна Гагенлоэ-Шылінгсфюрста, які жыве ў Германіі. Упершыню гэту калекцыю беларусы ўбачылі ў маі 2014 года на выстаўцы. На працягу 17 месяцаў дырэктарат музея вёў перагаворы з уласнікам партрэтаў князем Канстанцінам. І вось нарэшце Міністэрства культуры Германіі дало дазвол на перамяшчэнне гісторыка-культурных каштоўнасцяў», – расказала Анаіт Арзуманян.

Калекцыя налічвае 15 партрэтаў XIX стагоддзя і тры – XVIII стагоддзя. Сярод 18 жывапісных работ два роставыя партрэты, на якіх адлюстраваны князь Міхаіл Казімір Рыбанька і Ганна Людвіка – яго другая жонка. Тое, што партрэты маюць непасрэднае дачыненне да ўладальнікаў Мірскага замка, павышае каштоўнасць гэтай калекцыі.

ПРАЕКТ

# Скінуліся на… кафэ

*16 жыхароў Наваполацка ўклалі грошы ў адкрыццё кафэ хуткага харчавання.*

Праца кафэ «DoEAT» была запланавана па прынцыпе «краўдінвестынга» – калі некалькі чалавек з'яўляюцца інвестарамі агульнага праекта. Навапалачане Кірыл Кузін і Ілля Трум першымі ў горадзе вырашылі скарыстацца такім метадам.

– *Доўга думалі, чым будзем займацца*, – кажуць мясцовыя прадпрымальнікі. – *Перабралі многія варыянты, да прыкладу, праекты, звязаныя з электронікай, нерухомасцю. Нават разглядалі варыянт з альтэрнатыўнай энергетыкай. Усё гэта патрабуе вялікіх укладанняў, а прыцягнуць спачатку 500 тысяч долараў або мільён – складана. Таму вырашылі пачынаць з невялікага праекта.*

Некаторы час маладыя людзі шукалі жадаючых пачаць уласны бізнес. У новы праект уклалі грошы яшчэ 14 чалавек. Кошт адной акцыі складаў 200 долараў, а на адкрыццё кафэ ў гандлёвым цэнтры «Пралеска» было выдаткавана 20 тысяч долараў. Прыбытак ад работы ўладальнікі разлічваюць атрымаць ужо праз некалькі месяцаў.

**Раман ВАСЮКОВІЧ.**

СТЫЛЬ ЖЫЦЦЯ

# Заезд выбітных джэнтльменаў

*Гомельскія мотааматары днямі пракаціліся па горадзе на матацыклах у класічных касцюмах.*

*Такі ўбор – асноўнае правіла сусветнай акцыі «Заезд выбітных джэнтльменаў».*

На стварэнне адпаведнага праекта аўтараў акцыі натхніў фотаздымак героя серыяла «Вар'яты»: Дон Дрэйпер у бездакорным гарнітуры сядзіць на матацыкле. Было вырашана, што такі тэматычны прабег будзе выдатным спосабам барацьбы з часта негатыўным стэрэатыпам пра мужчын на матацыклах.

Першы прабег сабраў больш за 2500 матацыклістаў у 64 гарадах свету, у мінулым годзе на акцыю сабралася каля 40 тысяч матацыклістаў з 400 гарадоў розных краін.

Заезд з'яўляецца дабрачынным, і па ўсім свеце мотааматары збіраюць грошы на барацьбу з ракам і іншымі хваробамі. Гомельскія матацыклісты таксама сабралі грошы для грамадскай арганізацыі «Сацыяльныя праекты», якая аказвае дапамогу дзецям-інвалідам і маладым людзям з інваліднасцю.

*«У мінулым годзе нас было ўсяго восем, мы ехалі ў дождж і вымаклі*, – распавядае арганізатар мотапрабегу **Аляксандр Іваноўскі**. – *Гэтым разам сабралася ўжо каля трыццаці ўдзельнікаў. Спадзяюся, у наступным годзе нас будзе яшчэ больш».*

**Вера ВІР.**



